*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак* БАГУШЭВІЧ




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 37 (197) 14 верасня 1994 г. Кошт — 15 рублёў

**Выступіў перад беларусамі Польшчы, але не па-беларуску.** Стар. 2

**Кампутар набывае «нацыянальнасць».** Стар. 3

## ПОСТУП ТЫДНЯ

○ **АДБЫЛОСЯ СВЯТКАВАННЕ 480- ЫХ УГОДКАЎ ПЕРАМОГІ** беларускага шляхецкага войска на чале з найвышэйшым гетманам Кастусём Астрожскім над утрая большым войскам маскоўскіх захопнікаў на Крапівенскім полі пад Оршай.

○ *17 ВЕРАСНЯ СПАЎНЯЕЦЦА 55 ГАДОЎ З ДНЯ ДАЛУЧЭННЯ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ ДА БССР. У наступным нумары «Нашага слова» будзе змешчана гутарка з гісторыкам Анатолем Сідарэвічам наконт гэтай падзеі.*

○ **МІНІСТР ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ УЛАДЗІМІР СЯНЬКО ПРАВЁЎ** прэс-канферэнцыю для журналістаў, на якой адзначыў, што палітыка мінулага ўрада па аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі зрабіла вельмі негатыўным імідж для Беларусі за мяжой. На Захадзе бачылі, што практычная рэалізацыя таго пагаднення ў тым выглядзе вяла да інкарпарацыі Беларусі ў Расію. Сёння мы ўжо не разлічваем на тое, што Расія будзе штучна нам дапамагаць і нас фінансаваць. Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства ўпэўнены: «З майго пункту гледжання, не можа быць ніякай гаворкі пра нейкае аб'яднанне. Сёння ёсць погляды некаторых палітыкаў аб магчымасці аб'яднання славянскіх дзяржаў – Беларусі, Украіны, Расіі. Я думаю, гэта справа выйшла за рамкі магчымых практычных рэалій у арбіту тэорыі... Думаю, гэта справа нерэалістычная, і я як беларус сёння адчуваю толькі самыя прыемныя пачуцці ад таго, што Беларусь з'яўляецца незалежнай дзяржавай. Упэўнены ў тым, што яна такой і застанецца...»

○ *ПАД СТАРШЫНСТВАМ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ адбылося сумеснае пасяджэнне Калегіі Кабінета міністраў і Савета бяспекі. Абмеркаваны пытанні стабілізацыі фінансава-крэдытнай сістэмы Беларусі, пагашэння знешняга і ўнутранага доўгу. Падкрэслівалася, што далейшы рост знешняй запазычанасці Беларусі пагражае суверэнітэту дзяржавы. Па выніках пасяджэння зроблены канкрэтныя даручэнні членам урада.*

○ УКАНАДЗЕ Ў ГОРАДЗЕ ТАРОНТА прайшла 21-ая сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі. Галоўным пытаннем на ёй было: «Сучаснае становішча ў Беларусі і роля беларусаў Канады і ЗША ў беларускім нацыянальна-палітычным працэсе». У сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі прынялі ўдзел і госці з Беларусі.

○ *У ДРУКУ З'ЯВІЛАСЯ ПАВЕДАМЛЕННЕ, што па рашэнні савета атаманаў міжрэгіянальнага таварыства «Казацкае брацтва» і да рашэння Вялікага казацкага круга, дэпутат Віцебскага гарадскога Савета Вячаслаў Афанасьеў прыступіў да выканання абавязкаў вайсковага атамана Рэспублікі Беларусь. І каго казакі збіраюцца абараняць? Незалежнасць Рэспублікі Беларусь?*

○ У СЦЕНАХ СВЯТА-УСПЕНСКАГА МАНАСТЫРА ў Жыровічах пачала навучальны год Менская духоўная семінарыя.





Упершыню з 28 жніўня па 4 верасня наша краіна адзначыла свята беларускага пісьменства і друку. Навукова-творчая экспедыцыя «Дарога да святыняў» наведала старажытныя цэнтры беларускай гістарычнай культуры і духоўнага жыцця — Слонім, Баранавічы, Навагрудак, правяла чытацкія канферэнцыі і «круглыя сталы» ў бібліятэках і школах. У сталічным тэатры імя Янкі Купалы адбыўся ўрачысты вечар, на якім выступілі вядомыя дзеячы беларускай культуры. Выступленне народнага паэта Беларусі, старшыні ТБМ імя Ф.Скарыны Ніла Гілевіча «Наша слова» мяркуе надрукаваць у бліжэйшым нумары.

**На здымку:** Адзін з момантаў «Дарогі да святыняў».
**Фота А.НІКАЛАЕВА, Белінфарм.**

## НОВЫ МІНІСТР АДУКАЦЫІ І НАВУКІ АБЯЦАЕ РАЗВІВАЦЬ АДУКАЦЫЮ НА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ АСНОВЕ

*29 жніўня віцэ-прэм'ер Рэспублікі Беларусь Віктар Ганчар на афіцыйным пасяджэнні супрацоўнікаў апарату Міністэрства адукацыі абвясціў Указ Прэзідэнта аб назначэнні міністрам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь Стражава Васіля Іванавіча.*

Стражаў Васіль Іванавіч нарадзіўся ў 1944 годзе. Скончыў у 1961 г. СШ № 22 Менска з залатым медалём, потым у 1966 г. — фізічны факультэт Белдзярж-універсітэта і ў 1969 г. аспірантуру пры Інстытуце фізікі АН Беларусі. Доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар. У 1970—1972 гг. працаваў у Інстытуце фізікі Акадэміі навук: старшым інжынерам-канструктарам, малодшым навуковым супрацоўнікам. У 1972—1975 гг. — вучоны сакратар аддзялення фізіка-матэматычных навук АН Беларусі. У 1975—1978 гг. — інструктар аддзела навукі і навучальных установ Менскага абкама КПБ. У 1978—1980 гг. — загадчык аддзела навукі і навучальных установ Менскага гаркама КПБ. З красавіка 1980 г. — загадчык кафедры Беларускага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі. Са жніўня 1988 г. працуе ў Міністэрстве адукацыі: намеснікам начальніка Галоўнага ўпраўлення вышэйшай адукацыі і навукі, начальнікам Галоўнага ўпраўлення вышэйшай школы, намеснікам міністра.

Нарадзіўся В.Стражаў у Растоўскай вобласці, па нацыянальнасці — рускі, але тым не менш сваё першае інтэрв'ю па тэлебачанні ў якасці міністра адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь правёў па-беларуску, нават нягледзячы на тое, што некаторыя пытанні задаваліся па-расійску.

У газеце «Звязда» за першае верасня, адказваючы на пытанне карэспандэнтаў: «Васіль Іванавіч, апошнім часам чутны патрабаванні «изжить» нацыяналізм са школы. Як вы мяркуеце, ці сапраўды ёсць такая праблема?» новы міністр адукацыі і навукі сказаў: «Я не надта разумею, што маецца на ўвазе. Калі — новыя падручнікі гісторыі, то ў іх ёсць толькі асобныя старонкі, якія непажадана б было мець... Тут, відаць, павінен быць падыход, прапанаваны Саветам Еўропы, што датычыцца выкладання гістарычных дысцыплін, — яно не павінна пагаршаць сяброўства паміж народамі. І больш праблемы няма...» Далей у гутарцы на пытанне: «А калі ўсё ж заўтра Прэзідэнт дасць вам загад «выкараніць» нацыяналізм са школы?» В.Стражаў адказаў: «Не, ён такі загад не будзе даваць. Якраз, калі мы з ім размаўлялі, прэзідэнт сказаў, што ён падтрымлівае ўсё тое, што робіцца для стварэння нацыянальнай беларускай школы, для падтрымкі беларускай культуры. Але Прэзідэнт супраць выкладання гісторыі, калі яна проціпастаўляе розныя народы...»

Гаворачы пра канцэпцыю развіцця нацыянальнай беларускай школы, спадар міністр прызнаў, што «ў першую чаргу трэба, каб адукацыя будавалася на аснове таго, што мы маем — што наша краіна Беларусь, наша культура — беларуская...» Ці будзе ўсё так на самай справе, як гаворыць Васіль Стражаў, пакажа час.

**Н.С.**

**АЛЕ!**

### З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

## Мне 15 гадоў, і я ўжо каля года выпісваю «Наша слова»

*Добры дзень, рэдакцыя газеты «Наша слова». Мне 15 гадоў, і я ўжо каля года выпісваю вашу газету. Яна мне вельмі падабаецца. Звяртаюся да вас з просьбай расказаць пра беларускія маладзёжныя дэмакратычныя партыі, якія існуюць на Беларусі і за яе межамі. Асабліва хачу, каб вы расказалі ў газеце пра «Аб'яднанне беларускіх скаўтаў». Пра яго дзейнасць, гісторыю, дзе можна ўступіць у аб'яднанне ў Менску. Больш пішыце пра свядомую моладзь, пра беларускамоўныя рок-гурты, бардаў, поп-выканаўцаў. Акрамя ўсяго, прашу змясціць мой тэкст: «Хлопец 15-ці гадоў жадае пазнаёміцца для перапіскі са сваімі аднагодкамі». Пра сябе: мінчук, завуць Віталь, захапляюся беларускай і замежнай музыкай. Любімыя гурты «Мроя», «Крама», «Уліс», «Snow», любімы бард — Віктар Шалкевіч. Адрас у рэдакцыі.*

Ад рэдакцыі. Шаноўны Віталь, дзякуем за ўвагу да «Нашага слова». У чацвёртым квартале 1994 года рэдакцыя плануе расказаць сваім чытачам пра беларускія маладзёжныя дэмакратычныя партыі, пра дзейнасць беларускіх скаўтаў і шмат чаго іншага з жыцця беларускай моладзі. Галоўнае — сачы за газетай. Жадаем табе поспехаў у вучобе і ўсяго самага найлепшага ў жыцці.

---

### ВЕСТКІ З БЯЛЫНІЧ

## «ВЕЧАР» ЧАКАЕЦЦА ЎВОСЕНЬ

Здаецца, толькі ўчора самадзейныя артысты Бялыніцкага народнага тэатра юнага гледача раённага цэнтра культуры парадавалі жыхароў мястэчка сваёй новай работай – спектаклем па трагікамедыі А.Макаёнка «Трыбунал», а ўжо рыхтуюць новую прэм'еру. На гэты раз акцёры скіравалі сваю ўвагу на творчасць драматурга Аляксея Дударава і выбралі для свайго чарговага спектакля яго п'есу «Вечар». У ролях заняты старэйшая актрыса народнага тэатра юнага гледача Ніна Фяськова, рэжысёр ТЮГа заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Валянцін Ермаловіч, вадзіцель аўтобуса раённага аддзела культуры Мікола Шамрай.

Прэм'ерны паказ новага, чацвёртага па ліку спектакля пасля аднаўлення тэатра юнага гледача, мае адбыцца ў кастрычніку.

## ПЛЁН ПРЫХОДЗІЦЬ ДА РУПЛІВЫХ

На працягу апошніх двух гадоў у рэспубліцы праходзіў конкурс «Бібліятэка – асяродак нацыянальнай культуры», галоўнай мэтай якога была прапаганда і ўкараненне ў жыццё і свядомасць маладога пакалення беларусаў старадаўніх народных традыцый, абрадаў і звычаяў.

Вялікую работу ў адраджэнні нацыянальнай культуры праводзіць калектыў дзіцячага аддзела Бялыніцкай раённай бібліятэкі, які ўзначальвае сябра Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны Ларыса Куляшова.

Бібліятэкары значную ўвагу надаюць візуальнай інфармацыі – у чытальнай зале з густам, каларытна аформлены кніжныя вітрыны, паліцы, дзейнічаюць шматлікія выставы, ёсць экспазіцыя нацыянальнага адзення беларусаў. Акрамя гэтага, супрацоўнікі аддзела ў школах райцэнтра праводзяць фальклорныя святы, іншыя масавыя мерапрыемствы па адраджэнні духоўнай спадчыны.

Нядаўна стала вядома, што калектыў дзіцячага аддзела Бялыніцкай раённай бібліятэкі па выніках II тура рэспубліканскага конкурса названы адным з лепшых і ўзнагароджаны Ганаровай граматай Беларускага фонду культуры.

На лаўрах спачываць пераможцы, аднак, не збіраюцца. Зараз яны рыхтуюцца да правядзення масавых мерапрыемстваў па ўшанаванню 480 угодкаў з дня Аршанскай бітвы.

## АРГКАМІТЭТ ПАЧЫНАЕ ДЗЕЙНІЧАЦЬ

Адносіны ўлад да сусветнавядомай Аршанскай бітвы (8 верасня 1514 г.) досыць вядомыя. Не з'яўляюцца, на жаль, прыемным выключэннем і «бацькі» Бялыніцкага раёна. Таму прадстаўнікі суполак, плыняў і партый дэмакратычнай арыентацыі, што дзейнічаюць у раёне, 480 угодкі з дня слаўтай бітвы вырашылі ўшанаваць, аб'яднаўшы свае творчыя і арганізатарскія здольнасці. Дзеля каардынацыі створаны арганізацыйны камітэт, які даручана ўзначаліць старшыні рады рэгіянальнага аддзялення ТБМ імя Ф.Скарыны М.Карпечанку.

На першым пасяджэнні аргкамітэт стварыў некалькі груп, якія восьмага верасня ў школах, працоўных калектывах шэрага ўстаноў і прадпрыемстваў райцэнтра правядуць урачыстыя інфармацыйныя гадзіны. Прагучаць аповяды пра бітву ля рэчкі Крапіўна і яе значэнне для Вялікага Княства Літоўскага, вершы беларускіх паэтаў, прысвечаныя гэтай перамозе. Выканаўцы – заслужаны дзеяч культуры Беларусі В.Ермаловіч, супрацоўнікі райбібліятэкі, настаўнікі ды вучні школ.

## БУДЗЕ ЦАРКВА, БУДЗЕ І КАСЦЁЛ... МАГЧЫМА

У вёсцы Галоўчын Бялыніцкага раёна пачалося будаўніцтва праваслаўнай царквы. Узводзіць яе калектыў МПМК-241, неабходную дапамогу, у тым ліку і фінансавую, аказвае праўленне калгаса «Наша перамога», арганізацыі і прадпрыемствы раёна.

Новая царква будзе размяшчацца ў самым прыгожым кутку старажытнай вёскі. Старэйшае пакаленне галоўчынцаў згадвае, што іх папярэднюю царкву зруйнавалі ваяўнічыя атэісты ў шасцідзесятыя гады.

Папрасілі ў Бялыніцкім пасялковым Савеце выдзеліць участак зямлі для будаўніцтва касцёла і прадстаўнікі рымска-каталіцкай царквы. Ім было прапанавана на выбар некалькі месцаў. Патрабаванні каталікоў задаволіла мясціна, якая мае назоў Глінішча.

Некалі Бялынічы славіліся касцёлам кармелітаў, які пабудаваў у 1624 г. князь Леў Сапега, і цудатворным абразом Маці Божай. Абедзве гэтыя святыні напаткала страшэнная доля. Касцёл, перададзены ў 1876 годзе праваслаўю, напрыканцы 60-х гадоў нашага стагоддзя па распараджэнні мясцовых камуністычных улад быў узарваны. Крушню выкарысталі для добраўпарадкавання местачковых вулак і будаўніцтва дарогі Бялынічы–Эсьмоны.

Цудатворны абраз бялыніцкай Божай Маці, на пакланенне да якога штогод збіралася па некалькі тысяч чалавек амаль з усяе Беларусі, перад вайною быў выкрадзены з Магілёўскага музея разам з сусветна вядомым крыжам Лазара Богшы.

Магчыма, для бялыніцкіх каталікоў новы касцёл стане пэўнай духоўнай кампенсацыяй страт, нанесеных камуністычным рэжымам.

М. К.

### АЛЕ!

## ВЫСТУПІЎ ПЕРАД БЕЛАРУСАМІ ПОЛЬШЧЫ, АЛЕ НЕ ПА-БЕЛАРУСКУ

Неяк нядзельным вечарам я ўключыў радыёпрыёмнік і на адной з кароткіх хваляў пачуў роднае слова. Якраз ішла беларускамоўная перадача радыё Варшавы. Пасля навін слухачам прапанавалі інтэрв'ю са спадаром Саковічам, кіраўніком Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь, які нядаўна знаходзіўся ў Польшчы з візітам.

Як нагадвала гэта гутарка двухмоўныя інтэрв'ю беларускага радыё! Карэспандэнт задаваў пытанні на беларускай мове, адказы ж «выдаваліся» на рускай, а затым перакладаліся на беларускую. У канцы размовы дыктар далікатна заўважыў, што госць з Беларусі не валодае роднай мовай, таму рэдакцыя вымушана была пайсці на пераклад.

Большай ганьбы і горшага канфузу нельга ўявіць. Гэта падумаць толькі: высокі кіраўнік прыехаў з суверэннай Беларусі ў суверэнную дзяржаву, згадзіўся выступіць у радыёперадачы для беларусаў Польшчы, а гаварыць па-беларуску не ўмее. Якая знявага тым самым нанесена свайму народу і нашым замежным братам! Не здзіўляюся, што на чужой мове гаворыць з польскімі беларусамі і наш пасол у Варшаве спадар Таразевіч. Помню папрокуяго адрас у рэспубліканскай газеце за тое, што, будучы старшынёй камісіі гарбачоўскага Вярхоўнага Савета СССР па міжнацыянальных адносінах і выступаючы як дэпутат перад сваімі выбаршчыкамі на жніўеньскай нарадзе настаўнікаў, гэты функцыянер быў адзіным прамоўцам, які гаварыў на мове суседняга народа.

Мяркую, што спадар Саковіч не адносіць сябе зараз да былой наменклатуры. Але і ў застойныя часы былі кіраўнікі, якія разумелі сваю адказнасць перад беларускай дыяспарай. У сувязі з гэтым мне прыгадваецца выступленне колішняга сакратара ЦК КПБ па прапагандзе С.Пілатовіча на рэспубліканскім семінары рэдактараў. Станіслаў Антонавіч расказаў, як перад паездкай на Сусветную выстаўку ў Манрэалі ён разам са старшынёй урада Ціханам Кісялёвым трэніраваўся ў беларускай гаворцы, спадзеючыся на сустрэчы ў Канадзе з беларусамі-эмігрантамі і гутаркі з імі.

З таго часу мінула каля 30 гадоў. А справы з веданнем роднай мовы ў нашых кіраўнікоў, відаць, не палепшыліся. Таму ў мяне ёсць да прэзідэнта і ўрада Беларусі такая прапанова: не пасылаць у краіны, дзе жывуць беларусы, афіцыйных асоб, якія не валодаюць дзяржаўнай мовай.

**А.ЖАЛКОЎСКІ,**
**журналіст, сябра ТБМ імя Ф.Скарыны.**
г. Ліда.

## СА СВАІМ ЗОЛАТАМ НЕ ПРАПАДЗЁМ

У друку з'явілася паведамленне, што ў Беларусі здабыты першыя кілаграмы золата. Кіраўнік прадпрыемства «Белгеа», якое займаецца яго здабычай, Віталь Масквіч сказаў, што ў нашай краіне налічваецца 20 радовішчаў золата з агульным запасам, па ацэнках спецыялістаў, 50 тон. Цяпер здабываецца золата каля Заслаўя.

## ДАТЫ І ПАДЗЕІ Ў ВЕРАСНІ

**3 верасня.** Споўнілася 85 гадоў з часу ўзнікнення (верасень 1909) Гродзенскага гуртка Беларускай моладзі (працаваў да вясны 1914).

**4 верасня.** 135 гадоў з дня нараджэння Б.І.Эпімах-Шыпілы (1859—1934), дзеяча беларускай культуры, выдаўца і мовазнаўца, фалькларыста.

**7 верасня.** 280 гадоў з дня нараджэння М.Карыцкага (1714—1781 ці 1784), беларускага паэта, педагога.

**12 верасня.** 160 гадоў з дня нараджэння М.П.Авенарыуса (1834—1903), дзеяча народнай асветы, педагога, археолага, краязнаўца, заснавальніка Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі.

**20 верасня.** 65 гадоў з дня адкрыцця Слонімскага краязнаўчага музея.

**21 верасня.** 75 гадоў з дня нараджэння М.Затаўканюка, чэшскага мовазнаўца-славіста, даследчыка беларускай мовы.

**22 верасня.** 70 гадоў з часу выхаду ў Менску (верасень 1924) першага нумара часопіса «Беларуская медычная думка» (выходзіў да жніўня 1929).

**29 верасня.** 200 гадоў з дня нараджэння І.Ходзькі (1794—1861), польскага пісьменніка, мемуарыста, які шмат пісаў пра Беларусь.

### З АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ

* * *

1 верасня ўпершыню за школьныя парты села каля 160 тысяч першакласнікаў. Звыш 57 тысяч чалавек залічана ў прафтэхвучылішчы, 26 тысяч — у тэхнікумы. Студэнтамі дзённай формы навучання стала каля 22 тысяч юнакоў і дзяўчат.

* * *

*У Беларусь з пачатку года з краін былога СССР прыехала больш за 2500 бежанцаў, якія прадстаўляюць 21 нацыянальнасць, у тым ліку 781 чалавек — рускія. Дзякуючы бежанцам насельніцтва нашай краіны з 1991 года павялічылася больш чым на 20 тысяч.*

* * *

Колькасць вызваленых па скарачэнню штатаў за першае паўгоддзе гэтага года склала 47,7 тысячы чалавек (за першае паўгоддзе 1993 года — 17,2 тысячы). У тым ліку ў прамысловасці вызвалена 14,8 тысячы, транспарце — 2,7, будаўніцтве — 6,6, гандлі і грамадскім харчаванні — 5,3 тысячы.

### БЕЛАРУСКІ ЧАС У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ

Нядаўна Брэсцкі аблвыканкам перадаў Брэсцкай епархіі Свята-Нікалаеўскі храм на тэрыторыі мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой». Храм патрабуе значнай рэстаўрацыі, на якую патрэбны вялікія грошы, якіх на сённяшні дзень няма. Нягледзячы на тое, што рэшткі храма ў любы момант могуць разваліцца, у храме збіраюцца вернікі.



Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ.

ПА СУТНАСЦІ

# КАМПУТАР НАБЫВАЕ «НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЬ»

*Напрыканцы 40-х гадоў Масачусэцкім тэхналагічным інстытутам быў створаны ENIAC — першы ў свеце кампутар. Прызначэннем яго было рашэнне прыкладных задач, у першую чаргу выкананне разлікаў. Сёння, менш чым праз паўстагоддзе, кампутары распаўсюдзіліся па ўсім свеце. Але дзесяткі і сотні тысяч апаратаў, якія штодзённа ўключаюць свае машыны — ад маленькіх «ноўтбукаў» да вялікіх сістэм, што займаюць цэлыя залы, бачаць на дысплеях надпісы на англійскай або расійскай мовах. «Ці загавораць нашыя кампутары па-беларуску?» — з такім пытаннем наш карэспандэнт звярнуўся да Віктара Арлова — праграміста першай катэгорыі, кіраўніка службы інфармацыі ЦКБ «Пеленг».*

— Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба ўспомніць гісторыю паразумення чалавека і машыны, якая пачалася амаль пяць дзесяцігоддзяў таму. За гэты час змянілася некалькі пакаленняў кампутараў і, адпаведна, некалькі пакаленняў моў, якімі карысталіся праграмісты. Перш за ўсё трэба патлумачыць, што такое кампутар. Гэта прыбор, які сілкуецца электрычнасцю. Ток альбо ёсць, альбо яго няма. Гэта значыць, што сігнал ёсць ці адсутнічае, адзінка альбо нуль. Менавіта гэта і ёсць прынцып работы кампутара — складанне нулёў і адзінак ды іх запіс. З гэтага вынікаюць усе функцыі, якія выконвае машына. Таму мовай першага іх пакалення была серыя каманд, адрасаваных машыне. Яны мелі выгляд перфарацый на спецыяльнай стужцы або перфакартах. Каманды задаваліся машыне ў найбольш простай для яе форме. Валоданне машыннымі мовамі першага пакалення патрабавала спецыяльнай адукацыі. Яны былі зразумелыя толькі спецыялістам.

Прыкладам машыннай мовы другога пакалення можа стаць ASSEMBLER. Праграмы на ёй пісаліся з ужываннем знакаў лацінкі і арабскіх лічбаў. Гэтая мова не мела нічога агульнага з размоўнай, але ў параўнанні са ваімі папярэднікамі была значным крокам наперад.

Напрыканцы 60-х гадоў з'явілася новая мова — BASIC, яшчэ больш набліжаная да жывой, дакладней, да спецыяльнай тэрміналогіі. Гэта было значнай палёгкай для праграмістаў, але па-ранейшаму дыялог чалавека з машынай маглі весці толькі спецыялісты.

Становішча радыкальна змянілася, калі на змену транзістарам прыйшлі чыпы — інтэгральныя мікрасхемы, апрацоўка сігналаў у якіх вялася ці не на атамарным узроўні. Магутнасць працэсаў імкліва павялічвалася. Іх памеры змяншаліся. Для іх ствaралася новае, больш складанае праграмнае забеспячэнне. Пад новыя праграмы ствараліся новыя, больш моцныя машыны. А калі да справы далучыліся такія прамысловыя гіганты, як IBM ды Apple Computer, былі створаны цэлыя серыі машын, што сваімі магчымасцямі пераўзыходзілі папярэднія, а дзякуючы малым памерам і невысокай цане сталі даступнымі не толькі спецыялістам.

Персанальныя кампутары з-за сваёй вялікай моцы і нізкага кошту пачалі выкарыстоўвацца і дзеля выканання іншых, акрамя вылічэнняў, задач. Ствараліся новыя праграмы самых розных тыпаў. Так, напрыклад, каб карыстацца праграмай для гульні, не патрэбна ведаць прынцып работы кампутара, машынную мову ці ўвогуле мець хаця б якую-небудзь адукацыю. Дастаткова ведаць, як уключыць машыну і які вынік дасць націсканне некалькіх клавішаў, якое можна выконваць адной рукой. Гэта ж датычыла і большасці новых праграм. Былі распрацаваны сістэмы, якія дазвалялі чалавеку працаваць з машынай, не ведаючы прынцыпаў работы яе ці аперацыйнай сістэмы. Кампутары маглі выкарыстоўваць людзі, прафесіі якіх не звязаны з праграмаваннем. Таму сярод тых, хто меў дачыненне да кампутарнай тэхнікі, адбыўся падзел. Меншая іх частка мела спецыяльную адукацыю і, карыстаючыся адмысловымі машыннымі мовамі, стварала праграмнае забеспячэнне для персанальных кампутараў. Большасць жа стала карыстальнікамі, якім дзеля паразумення з машынамі было дастаткова іх уключаць і карыстацца інструкцыямі і схемамі, што выводзіліся на манітор. Менавіта ў выглядзе найпрасцейшых сімвалаў і зразумелых фраз падавалі кампутары сваім уладальнікам патрэбную ім інфармацыю. Ужыванне моў праграмавання, такіх, як СІ ці PASCAL, стала ўдзелам выключна праграмістаў.

Машына, незалежна ад таго, малюе яна на дысплеі зразумелыя нават дзецям сімвалы ці высвечвае там надпісы на любой з моў свету, зводзіць сваю працу да тых жа нулёў і адзінак. Уражанне разумення ёй мовы ці сімволікі і карыстання імі ствараюць спецыяльныя праграмы — аперацыйныя сістэмы альбо транслятары ці кампілятары, якія зразумелыя чалавеку знакі, словы і тэксты перакладаюць на мову электрычных сігналаў, зразумелых машыне. Таму ёй усё адно, на якой мове гаварыць са сваім карыстальнікам.

Дык чаму ж не на беларускай? Зноў трохі гісторыі.

З распаўсюджаннем персаналак па ўсім свеце з'явілася патрэба ў лакалізацыі праграмнага прадукту. Рэч у тым, што большасць праграм стваралася і ствараецца на Захадзе, а значыць, у працэсе карыстання імі ўсе надпісы на экране манітора выконваюцца на замежнай мове, часцей за ўсё па-англійску. Таму і спатрэбілася лакалізацыя — магчымасць ужывання тых жа праграм з выкарыстаннем іншых, акрамя лацінкі, алфавітаў і, адпаведна, афармлення надпісаў на экране на іншых мовах. Вельмі актуальным гэта стала ў Еўропе, дзе цэлы шэраг краін выкарыстоўвае кірылічную графіку. А з распадам СССР пачалося ўжыванне праграм на мовах, новых для іх заходніх стваральнікаў. І адной з іх стала беларуская.

Здаецца, няма нічога складанага у тым, каб адпаведным чынам перапраграмаваць сваю персаналку так, каб надпісы на маніторы з'яўляліся на беларускай мове. Няцяжка замяніць на беларускія і надпісы ў гатовых праграмах. Але ж трэба памятаць аб тым, што вылічальная тэхніка ствaралася не ў Беларусі і не толькі для беларусаў. Справа ў тым, што колькасць знакаў, якія можа выкарыстоўваць машына, абмежаваная. Яна складае 256. Частка з іх не адлюстроўваецца на экране — канец файла (адзінкі запісу), перанос радка, табуляцыя і гэтак далей. Астатнія — знакі лацінскага алфавіта, лічбы, знакі прыпынку, спецыяльныя знакі, так званая псеўдаграфіка. Дык вось, аказалася, што ўсе 256 знакаў ужо заняты, што не дае магчымасці выкарыстоўваць літары іншых алфавітаў. Таму распрацоўшчыкі праграм на нацыянальных мовах звычайна пазбаўляліся часткі псеўдаграфікі, усталёўваючы на яе месцы іншыя алфавіты, магчымасць працаваць з якімі давала нескладанае пераключэнне сістэмы. Так, у свой час фірмы Microsoft і IBM стварылі свой унутраны стандарт, у якім было прадугледжана выкарыстанне кірыліцы. Там знайшлося месца для ўкраінскіх «павернутага Э» і «і з дзвюма кропкамі», а таксама для беларускага «ў». Тут важна тое, што гэтая табліца сімвалаў была распрацавана і для клавіятуры, і для экрана, і для прынтэраў, што надавала ім універсальнасць. Так ці інакш, Microsoft стварыў фактычны стандарт для моў, што ўжываюць кірыліцу. Тут трэба патлумачыць, як ствараюцца сусветныя стандарты ўжывання графікі ў кампутарах. Папросту прадукт адной з фірм атрымлівае рашучую перавагу на сусветным рынку і фактычна робіцца стандартам. Потым яго можа зацвердзіць (звычайна так і адбываецца) ISO — Міжнародная арганізацыя стандартаў. Тады іншыя вытворцы ва ўсім свеце будуць змушаны прытрымлівацца гэтага стандарту.

Табліца, якая была распрацавана кампаніямі Microsoft і IBM , стала спачатку фактычным, а потым і юрыдычным стандартам. Кожнаму знаку ў ёй адпавядае жорстка замацаваны машынны двайчны код. Тым не менш гэтая сістэма — MSDOS — не найлепшым чынам прыстасавана да патрэб нашых карыстальнікаў. І каля двух гадоў таму ў Беларусі была створана спецыяльная група (у яе ўваходзіў і я), якая абмяркоўвала магчымасць прыняцця ўласнага, беларускага кампутарнага стандарту. Прафесійныя праграмісты — яе ўдзельнікі (у тым ліку з буйнейшых заводаў, НДІ ЭВМ) разумелі звязаныя з гэтым складанасці, у першую чаргу — неабходнасць адпаведнасці нацыянальнага стандарту міжнароднаму. Але справа спынілася, бо галасы падзяліліся паміж прыхільнікамі асобага нацыянальнага і міжнароднага стандарту. Таму дагэтуль у кампутарах, ужываных у нас, выкарыстоўваюцца розныя коды: «і» ды «ў» ставяцца дзе ўгодна. Гэта можа палегчыць працу індывідуальнага карыстальніка, але спыняе доступ да нашых машын найбольш сучасным праграмным прадуктам з-за мяжы. Так, беларускі тэкставы рэдактар «БЕЛРЭД» — праграма, створаная для працы з тэкстамі, — з'яўляецца папросту версіяй вядомага тэкставага рэдактара «ЛЕКСИКОН», распрацаванага ў Расіі. Абмяркоўваючы магчымасць стварэння нацыянальных беларускіх аперацыйных сістэм для кампутараў, мы мусім улічваць сумнае дасведчанне былога СССР. У свой час там была зроблена спроба стварэння расійскамоўнай сістэмы. Таксама, як кампутары серыі ЕС былі благімі копіямі машын IBM, была зроблена копія адной з шырока ўжываных за мяжой аперацыйных сістэм — MSDOS, — частка сімвалаў якой была заменена кірылічнымі. Гэта нават было замацавана ДАСТ СССР. Але ніхто і ніколі гэтай сістэмай не карыстаўся, бо ўсе асноўныя праграмныя сродкі ствараліся на Захадзе, і падчас выкарыстання з імі савецкай сістэмы на экране ўзнікала страшэнная мешаніна літар. Таму, нягледзячы на наяўнасць ДАСТ і тое, што менскі завод імя Арджанікідзе нават выпускаў прыстасаваныя да яго кампутары, паўсюдна выкарыстоўвалася іншае кадзіраванне — так званае альтэрнатыўнае. Яно дазваляла карыстацца кірыліцай, працуючы з замежнымі праграмамі. Гэтая ж сістэма выкарыстоўваецца ў нас і цяпер, хаця і не зацверджана ISO.

Прыкладам для нас можа паслужыць і тое, што Украіна па атрыманні незалежнасці прыняла ўласныя, незалежныя ад сусветных, кампутарныя стандарты. І цяпер гэта стварае цяжкасці ў выкарыстанні праграм, распаўсюджаных ва ўсім свеце. Затое Расія працягвае выкарыстоўваць табліцу Microsoft.

Сёння ўжыванне беларускай мовы ў кампутарах пашыраецца. Але гэтыя спробы нельга назваць удалымі. Бо замест таго, каб выконваць па-беларуску надпісы на экране, мы імкнёмся стварыць свой, ні на што ў свеце не падобны стандарт, які паставіць новую жалезную заслону паміж Беларуссю і светам — заслону для інфармацыі і кампутарных тэхналогій. Я думаю, што праблема сёння не ў тым, каб кампутары загаварылі з намі па-беларуску — якраз гэта зрабіць няцяжка. Галоўнае — стварэнне магчымасці да выкарыстання напісаных у нас праграм за мяжой і замежных — у нашай краіне. І дзіўна, што крокі да гэтага першымі робім не мы. Бо ўжо ў 1993 годзе тая ж Microsoft стварыла новую лакальную версію свайго надзвычай папулярнага ва ўсім свеце праграмнага асяроддзя Windows — 3.І. Дык вось, гэтая сістэма дазваляе працаваць з мовамі, якія выкарыстоўваюць і лацінку і кірыліцу, а ў тым ліку і з беларускай.

У канцы трэба нагадаць: праблемы, падобныя да нашых, існуюць у цэлым шэрагу еўрапейскіх краін — Даніі, Швецыі ды іншых, лацінская графіка якіх розніцца з англійскай. Усе нестандартныя знакі ў іх алфавітах — «перакрэсленае О», «U з дзвюма кропкамі», «О з дзвюма кропкамі» ды іншыя — падчас працы на кампутары дазваляе выкарыстоўваць невялічкая праграмная сістэма-пераключальнік. Магчыма, гэтым жа шляхам, каб палегчыць выкарыстанне на кампутарах беларускай мовы, маглі б пайсці і мы, звярнуўшыся ў Міжнародную арганізацыю стандартаў і да фірм, што займаюцца распрацоўкай і выпускам праграмных прадуктаў на сусветны рынак. Бо што такое беларускасць кампутара? Не што іншае, як магчымасць ужывання мовы падчас працы на ім, дыялогу паміж чалавекам і машынай, які будзе весціся па-беларуску. А што да саміх машын, дык тут трэба памятаць: па ўсім свеце кампутары карыстаюцца адной мовай адзінак і нулёў, сігнала ці яго адсутнасці.

**Распытваў У.ПАНАДА.**

*М.П.КАСЦЮК*

# БЕЛАРУСЫ: ЖЫЦЦЁ ВА ЎМОВАХ ЭКАНАМІЧНАЙ ПАЛІТЫКІ

Важным напрамкам беларусізацыі з'яўляўся перавод службовага справаводства на беларускую мову. Гэта паспяхова ажыццяўлялася, як і аваладванне работнікамі партыйных і дзяржаўных органаў беларускай мовай. Калі ў 1925 г. толькі 22 працэнты рэспубліканскіх устаноў карысталіся беларускай мовай, а ў акругах і раёнах – 36 працэнтаў, то ў 1927 г. гэтыя паказчыкі адпаведна павысіліся да 80 і 70 працэнтаў.

Рухалася справа пераводу навучання на беларускую мову. У 1926/27 навучальным годзе сярод 4- і 7-гадовых школ беларускамоўнымі з'яўляліся адпаведна 85 і 67 працэнтаў. У вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школе БССР тэрміны правядзення беларусізацыі ў асноўным выконваліся паспяхова. Асабліва гэта датычыла педагагічных навучальных устаноў. У адпаведнасці з палітыкай беларусізацыі значна павялічылася колькасць прадстаўнікоў беларускай нацыянальнасці ў складзе кіруючых органаў. Гэта адносілася як да партыйна-савецкага апарату, так і прафесійнага, камсамольскага і іншых.

Аднак ажыццяўленне палітыкі беларусізацыі сутыкалася са значнымі цяжкасцямі. Найбольш трывожнай прыкметай было тое, што супроцьдзеянне ёй усё больш нарастала ў партыйным кіраўніцтве КП(б)Б. Жорсткая пазіцыя наглядна адлюстроўвала нарастанне адмоўных адносін партыйнага кіраўніцтва БССР да палітыкі беларусізацыі. Паказальна, што гэта адбывалася ў час, калі ў рэспубліцы з'яўляліся прыкметы разгортвання барацьбы з так званай нацдэмаўшчынай. Яе нарастанне ў канцы 20-х – пачатку 30-х гг. фактычна прывяло да таго, што ажыццяўленне палітыкі беларусізацыі было спынена.

Але ў сярэдзіне 20-х гадоў беларусізацыя ў значнай ступені вызначала характар усяго культурнага будаўніцтва ў рэспубліцы. Важнай, а нярэдка вызначальнай з'яўлялася пазіцыя партыйна-дзяржаўных органаў у развіцці культуры. У той час яна была пазітыўнай. Гэта знайшло выражэнне ў адпаведных рашэннях. У прыватнасці, студзеньскі (1925 г.) пленум ЦК КП(б)Б адзначыў, што лозунг, які кампартыя Беларусі павінна прыняць у культурнай рабоце, гэта лозунг «беларусізацыя».

Вострым пытаннем культурнага будаўніцтва стала кіраўніцтва ім. Імкнучыся да ўсталявання адзінаўладдзя, КП(б)Б настойліва прэтэндавала на гэтую ролю. Яшчэ на сваім X з'ездзе (снежань 1925 г.) яна паставіла задачу быць на чале ўсяго культурнага будаўніцтва. Але поўнасцю авалодаць становішчам у галіне культуры кампартыя Беларусі так і не змагла, бо тут галоўны абсяг работы належаў патрыятычнай, нацыянальна свядомай інтэлігенцыі. Выходзячы з такога становішча, пад канец 20-х гадоў партыйна-дзяржаўныя структуры рэспублікі, кіруючыся дырэктывамі цэнтра, усё больш рабілі стаўку на барацьбу з так званым беларускім нацыянал-дэмакратызмам, каб расправіцца з лепшай часткай беларускай інтэлігенцыі.

У такіх умовах у БССР ажыццяўлялася праца па развіццю культуры. У першую чаргу надавалася ўвага пераадоленню непісьменнасці насельніцтва. Хаця рэспубліка адносілася да ліку рэгіёнаў з даволі высокім узроўнем пісьменнасці (у 1920 г. каля палавіны жыхароў ва ўзросце ад 9 да 49 гадоў былі пісьменнымі), але амаль палова дарослых грамадзян не валодала граматай.

У мэтах прывядзення ў адпаведнасць школьнай сеткі з задачамі культурнага развіцця ў 1922 г. у рэспубліцы была праведзена рэформа школьнай сістэмы. Асноўным яе звяном стала сямігадовая працоўная агульнаадукацыйная школа. Яна замяніла 9-гадовую. Аднак матэрыяльныя цяжкасці ў забеспячэнні школ прывялі да значнага іх скарачэння. Змякчыць гэтую тэндэнцыю дапамагла падтрымка насельніцтва, якое нярэдка брала на сябе частку выдаткаў на ўтрыманне школ. У выніку намаганняў дзяржаўных органаў і насельніцтва колькасць школ у БССР паступова павялічвалася.

Нялёгкай задачай з'яўлялася падрыхтоўка кадраў настаўнікаў. У 1925/26 навучальным годзе не мелі спецыяльнай падрыхтоўкі 62,3 працэнта настаўнікаў рэспублікі, чвэрць іх не мела нават сярэдняй адукацыі. Да таго ж настаўніцтва раз'ядноўвалася рознымі палітычнымі поглядамі, разуменнем задач школьнага навучання і падыходаў да яго ажыццяўлення. Каб больш паверхнуць кадры настаўнікаў у бок савецкай улады, у 1926 г. быў праведзены з'езд настаўнікаў БССР.

Нямала ўвагі надавалася пераводу школьнага навучання на беларускую мову. На практыцы гэта было нялёгкай задачай. Перашкодай нярэдка станавіліся старыя падыходы часткі настаўнікаў, кансерватызм апарату, які кіраваў народнай асветай. Супроцьдзейнічалі і некаторыя мясцовыя жыхары, асабліва прадстаўнікі нацыянальных меншасцей, якія бачылі ў гэтым праявы беларускага нацыяналізму. Цяжкасці ў дадзенай справе, як слабыя вынікі прызнаваліся і ў партыйных рашэннях. У прыватнасці, кастрычніцкі (1925 г.) пленум ЦК КП(б)Б адзначыў, што беларусізацыя многіх школ носіць пакуль павярхоўны характар.

І ўсё ж у рэспубліцы была ў асноўным створана новая сістэма народнай адукацыі. У 1928/29 навучальным годзе ў БССР налічвалася больш як 5,7 тыс. агульнаадукацыйных школ, дзе займалася 485 тыс. вучняў. Амаль 80 працэнтаў дзяцей 8–12 гадоў наведвалі школы.

Але дасягнуць усеагульнай пісьменнасці можна было толькі шляхам развіцця школьнага навучання разам з актыўнай працай па ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці сярод дарослага насельніцтва. Значную работу вяло таварыства «Далоў непісьменнасць», якое ўзнікла ў 1924 г. Пры яго садзейнічанні была разгорнута шырокая сетка пунктаў ліквідацыі непісьменнасці. З мэтай лепшага правядзення работы па навучанню грамаце дарослых у 1925 г. для іх быў выдадзены беларускамоўны буквар. Вынікам агульных намаганняў стала тое, што на працягу 20-х гадоў каля 100 тыс. дарослых жыхароў БССР сталі пісьменнымі.

Па меры таго, як партыя ўсё больш забірала кіраўніцтва культурай у свае рукі, узмацнялася палітычная накіраванасць гэтай работы. У 1920 г. быў створаны нават спецыяльны дзяржаўны орган – Галоўпалітпрасвет, які кіраваў усёй сістэмай палітычнай асветы насельніцтва. Ствараліся сетка апорных пунктаў культасветнай працы. У вёсках гэта былі хаты-чытальні, у гарадах – клубы. У 1925 г. у БССР дзейнічала больш за 300 раённых дамоў культуры і клубаў, а таксама 587 хатаў-чытальняў. Развівалася бібліятэчная справа. У 1929 г. у рэспубліцы мелася 630 бібліятэк, кніжны фонд якіх перавышаў 1,5 млн. тамоў.

Важным накірункам культурнага будаўніцтва з'яўлялася стварэнне вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы. Значнай падзеяй стала адкрыццё ў 1921 г. Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Вялікую арганізатарскую, педагагічную і навуковую работу праводзілі яго першы рэктар У.І.Пічэта, член праўлення універсітэта, нарком асветы БССР У.М.Ігнатоўскі і інш. У 1922 г. быў створаны Беларускі дзяржаўны інстытут сельскай і лясной гаспадаркі. У 1925 г. ён быў аб'яднаны з Горацкім земляробчым інстытутам і створана Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія. У 1924 г. у рэспубліцы працавалі чатыры вышэйшыя навучальныя ўстановы. Ствараліся таксама сетка тэхнікумаў.

Прыём у вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя ўстановы ажыццяўляўся на класавай аснове. Таму выхадцы з заможных сем'яў былі абмежаваны ў магчымасцях атрымаць адукацыю. У мэтах стварэння лепшых умоў для навучання рабочай моладзі ствараліся рабочыя факультэты (рабфакі).

Былі поспехі і ў развіцці навукі. На базе навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы БССР у 1922 г. заснавалі Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт), дзейнасць якога ў галіне грамадазнаўчых навук і навук аб прыродзе аказалася вельмі плённай. Асабліва актыўна там працавалі гісторык У.Ігнатоўскі, археолагі А.Ляўданскі, К.Палікарповіч, С.Дубінскі, мовавед П.Бузук, этнографы А.Сержпутоўскі, І.Сербаў, А.Шлюбскі, біёлаг Г.Высоцкі і многія іншыя. На базе Інбелкульта 1 студзеня 1929 г. была адкрыта Беларуская акадэмія навук.

Шмат здабыткаў пакінулі 20-я гады ў развіцці беларускай літаратуры і мастацтва. Літаратары аб'ядноўваліся ў літаратурныя аб'яднанні. У 1924 г. узнікла ўсебеларускае аб'яднанне паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк». Яно лічыла сябе арганізацыяй пралетарскіх пісьменнікаў, якія прызнавалі вялікую ролю літаратуры ў барацьбе за новае жыццё. Актыўнымі яго сябрамі былі А.Александровіч, П.Галавач, М.Лынькоў, П.Трус, М.Чарот і інш.

У 1926 г. літаратары А.Бабарэка, П.Глебка, У.Дубоўка, К.Крапіва, М.Лужанін, Я.Пушча, К.Чорны выйшлі з «Маладняка» і ўтварылі літаратурна-мастацкае згуртаванне «Узвышша». Яно абвясціла, што збіраецца арыентавацца пераважна на прынцыпы высокага мастацтва. Прадстаўнікамі гэтага аб'яднання крытыкаваліся нігілістычныя адносіны маладнякоўцаў да класічнай спадчыны.

Арганізацыя літаратурных сіл працягвалася, і ў 1927 г. узнікла літаратурнае аб'яднанне «Полымя». У ім былі прадстаўлены пераважна пісьменнікі старэйшага і сярэдняга пакаленняў – Я.Колас, Я.Купала, А.Вольны, Ц.Гартны, А.Гурло, А.Дудар і іншыя. Яны звязвалі высокае грамадскае прызначэнне літаратуры з удасканаленнем яе нацыянальнай формы. Аб'яднанне стрымлівала крайнія тэндэнцыі ў развіцці літаратурнага працэсу.

20-я гады былі адзначаны з'яўленнем выдатных літаратурных твораў у галіне паэзіі, прозы і іншых жанраў. Сярод іх паэмы «Безназоўнае» Я.Купалы, «Босыя на вогнішчы» М.Чарота, «Юны змаганец» П.Труса і інш. З'явіліся аповесці «У палескай глушы» і «У глыбі Палесся» Я.Коласа, раман Ц.Гартнага «Сокі цаліны», шэраг іншых цікавых твораў.

Але ўжо ў той час узмацнялася партыйна-дзяржаўная цэнзура за літаратурнай творчасцю. Адным з праяў гэтага было зняцце з рэпертуара Беларускага дзяржаўнага тэатра выдатнай п'есы Я.Купалы «Тутэйшыя». Як адзначалася 3 снежня 1926 г. на бюро ЦК КП(б)Б, гэта было зроблена таму, што твор утрымліваў элементы нацыянал-дэмакратызму.

Складаны, але даволі плённы шлях творчага станаўлення прайшло ў гэты час тэатральнае і выяўленчае мастацтва Беларусі, графіка, скульптура, развівалася народная творчасць. Усё гэта сведчыла, што беларуская нацыянальная культура ў 20-я гады перажыла ўздым. Яна стала важным фактарам нацыянальнага Адраджэння, якое пачалося з канца XIX ст. Палітыка беларусізацыі стварыла гэтаму працэсу даволі трывалую глебу. Нацыянальная свядомасць беларускага народа пачала аднаўляцца. Але пад канец 20-х гадоў у выніку фарміравання каманда-адміністрацыйнай сістэмы, культу асобы, дыктатарскага сталінскага рэжыму станоўчыя працэсы былі фактычна спынены.

Матэрыял скарочаны,
тэкст да друку падрыхтаваў
**Мар'ян ВІЖ.**

---

*Рубрыку вядзе народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль*

*СТАРЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ГІМНАЗІІ*

# ВУЧЫЛІСЯ ПЕРАВАЖНА СІРОТЫ

Яна існавала вельмі кароткі час. Была закладзена ў снежні 1920 г. і закрыта 31 жніўня 1921 г. Такі кароткі час работы гімназіі тлумачыцца недахопам сродкаў. Гімназія была прыватнай, матэрыяльна падтрымлівалася Беларускім камітэтам у Варшаве. Старшынёй гэтага камітэта быў Лявон Дубяйкоўскі (архітэктар), які прытрымліваўся польскай арыентацыі, дзеля чаго польскі ўрад выдаткоўваў яму кожны месяц на беларускія справы 250 тысяч марак. З гэтага ён даваў невялікія сумы на падтрыманне паўгалодната існавання настаўнікаў Гродзенскай беларускай гімназіі.

У гімназіі было толькі чатыры класы з агульнай колькасцю вучняў 80 чалавек, пераважна сірот, якія знаходзіліся на выхаванні ў беларускім прытулку, размешчаным у Барысава-Глебскім манастыры на вуліцы Маставой (разбураны ў час Другой сусветнай вайны гітлераўцамі).

Дырэктарам гімназіі лічылася Міхаліна Мараўская, якая ў свой час скончыла Бястужаўскія курсы ў Пецярбургу. Працавала яна ў асноўным у польскай гімназіі, дзе выкладала французскую мову, а беларускую гімназію наведвала калі-нікалі. Усю працу ў гімназіі па вучэбнай частцы і па гаспадарцы выконваў я — інспектар.

Настаўнікамі ў нас былі: Базыль Кулікоўскі, Янка Натусэвіч, Смоліч (жанчына, імя не памятаю) і Мальчэўская (імя не памятаю).

Акрамя асноўных чатырох класаў, пры гімназіі было два класы пачатковыя. Там працавалі дзве настаўніцы: Ганна Адамаўна Кухарчук і Маланні Сцяпанаўна Трыпуз.

Па матэрыяльную падтрымку гімназія звярталася да польскіх улад. Але ёй адмовілі. Пасля закрыцця гімназіі ўсе вучні былі накіраваны ў Віленскую беларускую гімназію.

**Павел Аляксандравіч ТАМАШЫК,
былы інспектар
гімназіі.**

ВУЧЫМСЯ

*Мікалай КРЫЎКО*

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПАПО́ВІЧ** разм. (сын папа; чалавек, які паходзіць з роду праваслаўнага святара) *Так, у заходнярускай Чэцці 1489 г., пісанай паповічам Бярозкай з Навагрудка, гаворыцца аб «храборах», якія робяць «добрая дела богатырская»* (Алексютовіч), **ПАПАДЗЮ́К** разм.

**ПАПРАКА́ЦЬ** (выказваць каму-н. папрокі) *– Ты б, Макар, хоць бы ў святы дзень крыху ласкавейшым быў, – папракае яго цётка* (Жычка), **ДАКАРА́ЦЬ** *Спадзеючыся, што гэта ўсё з часам мінецца, я не ўпікаў, не дакараў жонкі* (Сабаленка), **КАРЫ́ЦЬ** разм. *Кажа ціха гаспадыня: – Што карыць яго дарма? Ад дабра свой дом не кіне, Добра ведаю сама* (Колас), **УПІКА́ЦЬ** *Так, так, Паліна больш за ўсіх будзе ўпікаць ..[Ніне], што ў апошні час не пісала і нават у час канікулаў не наведалася дамоў* (Сіўцоў), **ПАПІКА́ЦЬ** *Маці папікала бацьку «нежыццёвасцю», нядбальствам, тратай грошай і часу на пустое тады, калі і таго і другога не хапае, а людзі вунь яшчэ і зямельку купляюць, стараюцца* (Брыль), **ВЫКІДА́ЦЬ** (або **ВЫКІДВАЦЬ) НА ВО́ЧЫ** (або **НА ВО́КА**) разм. *Не давай і на вочы не выкідай* (з народнага). *Айцу Мадэсту таксама не церпіцца, хоць у справы сваіх парафіян ён не мяшаецца. Але калі заўважае што, то выкідвае ўсё гэта на вока* (Колас), **КАЛО́ЦЬ ВО́ЧЫ** (або **У ВО́ЧЫ**) разм. *Калоць мне вочы сынам не дазволю! – цвёрда папярэдзіў.. Кірыла* (Шамякін). *А цяпер колеш усім у вочы, нібы нехта вінаваты...* (Васілевіч), **ПАРО́ЦЬ У ВО́ЧЫ** разм. *І дораць і ў вочы поруць* (Прыказка). — *Закончанае трыванне:* **Папракну́ць, упікну́ць, папікну́ць, выкі́нуць на вочы (на вока)**.

**ПАПРАСІЦЬ ПРАБАЧЭ́ННЯ** (угаварыць каго-н. прабачыць віну) *Папрасіўшы прабачэння, падлоўчы адлучыўся, пакінуўшы Лабановіча з дачкою і сынам* (Колас), **ПЕРАПРАСІЦЬ** *Так мне хацелася хоць трохі перапрасіць дзеда за тое, што пры жыцці я не слухаў яго і дражніўся з ім* (Лужанін). — *Незак.:* **Прасіць прабачэ́ння, перапро́шваць і перапраша́ць.**

**ПАПРА́ЎКА** (змена, дадатак, што ўносіцца куды-н. дзеля недахопаў, памылак) *Сяргей Міронавіч перагортвае ноты. Яны дзе-ні дзе пярэсцяць ад паправак каляровым алоўкам* (Бядуля), **ВЫПРАЎЛЕ́ННЕ** (папраўка ў тэксце, рукапісе і пад.) *Работы, у якіх ёсць многа памылак, пасля іх выпраўлення вучні перапісваюць цалкам* (Самцэвіч), **КАРЭКТЫ́ЎУ** кніжн. *У работнікаў тэлецэнтра няма тых магчымасцей для карэктываў, выпраўлення допушчаных памылак* (Пярмяк).

**ПАПРАЎЛЯ́ЦЦА** (злёгку паўнець). *Але мы нічуць не змяняемся – Не худзеем і не папраўляемся* (Чэрня), **ПРА́ВІЦЦА** разм. *Табе правіцца трэба: глядзі, схуднела, як склют* (Вышынскі), **КРУГЛЕ́ЦЬ** *На камендацкім месцы пачаў [Кубке] круглець, і яму здавалася, што ён выконвае вялікую гістарычную місію* (Чорны), **АКРУГЛЯ́ЦЦА** *І разам з тым як акруглялася яго ўласная постаць, акругляўся і яго ўклад у надзейным банку* (Лынькоў), **НАЛІВА́ЦЦА** (пераважна пра маладых дзяўчат, дзяцей), **ЯДРАНЕ́ЦЬ** разм. (пераважна пра маладых дзяўчат), **УБІРА́ЦЦА** (або **УВАХО́ДЗІЦЬ) У ЦЕ́ЛА** разм. — **Зак.: Папра́віцца, пакругле́ць, акругліцца, наліцца, паядране́ць, увабра́цца** (або **ўвайсці**) **у це́ла.**

**ПАПРО́К** (неадабрэнне, абвінавачанне, выказаныя словамі, позіркам і пад. да каго-н.) *– Вы, Поля, зноў вяртаецеся да старога! – прамовіў Карніцкі з нейкім папрокам у голасе* (Паслядовіч), **УПІК і УПІКА** – *Чуў, чуў ужо гэта, – з упікам сказаў бацька* (Кулакоўскі). *Толькі.. песні твае, Беларусь, хапаюць за сэрца, жалобяць душу, туманяць вочы слязьмі, плачуць і стогнуць і горкаю ўпікаю, ціхаю скаргаю плывуць к далёкаму, няведамаму, сіняму, спакойнаму небу* (Колас), **УПІКА́ННЕ** *Крыўдна будзе мне пачуць адной чы упіканне зноў* (Русецкі), **ДАКО́Р** *Кіпіць работа цяжкая Ад рання і да ночы, Ніхто не йдзе з дакорамі – Такі ўжо люд рабочы* (Купала), **ДАКО́РЛІВАСЦЬ** *Позіркамі, у якіх былі і надзея, і дакорлівасць, і амаль што абурэнне,..[Валя] акінула фае – Пайла не было* (Шахавец), **ЗА́КІД** (напамінанне, лёгкі папрок) *Можна было б, мабыць, рабіць і іншыя закіды ў адрас даследчыка: чым лепшая кніжка, тым больш хочацца знайсці ў ёй адказаў на пытанні, што хвалююць цябе* (Ярош).

**ПАПРО́СТУ** (без захавання ўмоўнасцей, якіх-н. правіл, этыкету і пад.) *Павіншавалі мы яго і па-ранейшаму, папросту, Калегі цэха аднаго, Дзялілі радасць, боль і роздум* (Гілевіч), **ПА-ПРО́СТАМУ** *А чалавек які! З кожным табе па-простаму* (Дуброўскі), **ПРО́СТА** – *Пачакай Тацяна, – ён [Лясніцкі] не заўважыў, што першы раз звярнуўся да яе так проста, як звяртаўся да ўсіх у атрадзе* (Шамякін), **БЕЗ ЦЫРЫМО́НІЙ** (або **БЕЗ ЦЫРЫМО́НІІ**) – *Заходзь сёння, пасядзім, пагаворым... заходзь, праўда – без цырымоній!..* (Мележ). *[Вучні] без усякай цырымоніі, нават у калідоры, звярталіся да Лены...* (Няхай).

**ПАПЯРЭ́ДНІ** (які быў, меў месца перад іншым) *Гэтыя дні самастойнага жыцця надалі.. [людзям] вопыту больш за ўсе папярэднія гады* (Маўр), **РАНЕ́ЙШЫ** *У тым святле было куды больш, чымся ў ранейшым, мяккасці і чысціні* (Карамазаў), **МІНУ́ЛЫ** *У адрозненне ад мінулых на канверце апошняга ліста стаяла прыпіска «тэрмінова»* (Лынькоў).

**ПАРА́ДА** (прапанова, як дзейнічаць) *Людзі з суседніх вёсак часам ішлі да.. [настаўніка] за парадай* (Васілевіч), **РА́ДА** *Адзін успомніць гэта, Той прынясе сваё, Але для ўсіх у дзеда Адказ і рада ёсць* (Лужанін), **ДАРА́ДА** дыялектнае *Якуб часамі даваў такія гаспадарскія дарады, што дзядзька толькі здзіўляўся* (Колас). **РЭКАМЕНДА́ЦЫЯ** *Але ў калгасе імя Дзяржынскага не палічыліся з нашай рэкамендацыяй* (Арочка).

**ПАРА́ДАК** чаго або які (устаноўленая кім-н. або ўсталяваная паслядоўнасць, сістэматычнасць у ходзе спраў, падзей і пад.) *Шмат суседзяў [Пніцкага] таксама, які ён, уцягваліся ў новы парадак жыцця, адрываючыся ад старога* (Чорны), **РАСПАРА́ДАК** *Інтэрнат перайшоў на летні лагерны распарадак* (Радкевіч), **РЭЖЫ́М** *Будзе табе весела. Пры такім вялікім статку Пры рэжыме і парадку* (Бічэль-Загнетава).

ВУЧЫМСЯ

1. Даданая азначальная частка звязваецца з галоўнай часткай складаназалежнага сказа пры дапамозе злучнікаў і злучальных слоў **які, каторы, чый, што, калі, дзе, каб, як** і інш., перад якімі звычайна ставіцца коска: *Агонь жыцця душа вясной заве, каторая людской крывёй апета...* (У.Хадыка). *Тое шчасце лічыцца надзейным, што здабыта цяжкім працаднём* (А.Куляшоў). *Быў час, калі агню нідзе на свеце не было ў людзей* (У.Дубоўка). *Грымоты даносіліся з таго боку, дзе зайшло сонца* (Кузьма Чорны). *Заспявай ты мне песню такую, каб мне душу паліла яна* (Якуб Колас). *Гэтай ноччу сон мне сніўся, бы я ў лес па дровы ехаў* (М.Машара).

**Заўвага 2.** Коска можа ставіцца перад даданай часткай, якая пачынаецца спалучэннем назоўніка, лічэбніка і іншых часцін мовы са злучальнымі словамі **які, каторы,** напрыклад: *Цякла тут з лесу невялічка травой абросшая крынічка, абодва берагі каторай лазняк, ракітнік абступалі* (Якуб Колас).

2. У тых выпадках, калі даданая азначальная частка знаходзіцца ў сярэдзіне галоўнай часткі складаназалежнага сказа, яна выдзяляецца коскамі з абодвух бакоў: *Сняжок, які выпаў за ноч, мякка хрусцеў пад нагамі* (А.Чарнышэвіч). *Акно, што выходзіла ў малады сад, было завешана ад мух марляй* (І.Шамякін).

Калі ж галоўная або даданая частка з'яўляецца

УДАКЛАДНІМ

*Леанід БУРАК,*
*заслужаны работнік народнай адукацыі Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар*

## ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ Ў СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫХ СКАЗАХ

### а) Складаназалежныя сказы з даданымі азначальнымі часткамі

**Заўвага 1.** Калі злучальныя словы **які, чый** ужываюцца ў форме ўскосных склонаў з прыназоўнікамі, то коска ставіцца перад іх спалучэннямі з гэтымі прыназоўнікамі: *Гулкі стрэл страсянуў галлё, з якога пасыпаласяігліца і сухое лісце* (М.Лынькоў). *Ногі блыталіся ў траве, над якой гулі пчолы* (Кузьма Чорны). *Здаецца, прыйшоў ляснік Максім Заруба, у чыім абходзе Андрэй высек дубок* (Якуб Колас).

развітой і мае свае знакі прыпынку, то з мэтай больш дакладнага яе адмежавання пасля даданай часткі можа ставіцца коска і працяжнік, напрыклад: *За борам цёмным, вялікім, дзе, зачапіўшыся за сасновы грэбень, калышацца сіняе неба, – жыў сірата Музыка* (Максім Танк). *На нівы, рыжыя папары, дзе дыша сонцам сухавей, – сівы пярун са злоснай хмары навёў сто дваццаць батарэй* (А.Вялюгін).

ЧЫТАЕМ КАЗКІ

*Здзіслаў СІЦЬКО*

## ПАДЧАРКІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ

*(Працяг.)*

У першай частцы артыкула распавядалася пра незвычайныя радкі беларускай народнай казкі «Каза Дарота». Асабліва дзіўнымі ўяўляюцца мера пакарання («забіў») і незвычайнае пахаванне («пад печ падкінуў»). Чаму так? Пра гэта распытаем «гераіню» казкі.

### КАЗА

На Каляды шчадроўнікі «вадзілі казу». Можна меркаваць, што ў старадаўні беларускі абрад калядавання яна трапіла невыпадкова. Як кажа наша прымаўка, дарма і каза не скача. Дзіўна вось што: магчыма, нават у той жа вечар, калі шчадроўнікі зычаць гаспадарам шчасця-долі, а каза скача-варожыць ім «жыта капою», дзеткам баюць казку пра «казу-дзеразу, паўбока аблупленую». І ў батлеечных відовішчах з казою абыходзяцца без пашаны: яе прадаюць, б'юць, клянуць: «каб цябе ваўкі з'елі».

Верагодна, самая першая «роля» казы — ахвяра. Прынамсі, такое меркаванне ўзнікла ў даследчыкаў пры знаёмстве з побытам і культурай першабытных земляробаў, што жылі за некалькі тысячагоддзяў да Хрыстовага нараджэння (далей — Х.н.) у міжрэччы Тыгра і Еўфрата, у Месапатаміі. Археолагі, якія раскапалі пабудовы так званай Хасунскай культуры (VII—VI тысячагоддзі да Х.н.), так разважаюць аб прызначэнні рэшткаў некалькіх казіных рагоў: «гэтыя знаходкі, відавочна, звязаныя з абрадамі, што суправаджалі заснаванне... будыніны». Для нас уяўляе асаблівую цікавасць, што рэшткі ахвярных жывёл знойдзены ў магілах дзяцей носьбітаў гэтай Хасунскай культуры. Не прамінём адзначыць і месца, дзе хавалі маленькіх нябожчыкаў, — у будынках. Некаторыя магілы знаходзіліся пад печчу. (І ў больш позніх пахаваннях у Месапатаміі археолагі знаходзілі выявы «ахвярных казлоў» ды малюнкі з выявамі гэтых жывёлін на розных рэчах.)

Цалкам верагодна, што «каза лупленая» — гэта згадка пра ахвяраванні нашых прашчураў таго часу, калі яны займаліся пастырствам, калі ў іх гаспадарцы пераважала жывёлагадоўля.

Але паступова, пераходзячы да земляробства, нашыя прашчуры мянялі «функцыю» казы. Гэта адбывалася ў агульным рэчышчы фармавання новай, земляробчай культуры, незалежна ад рэгіёнаў яе існавання — ці то ў Месапатаміі, ці ў Грэцыі. На адной з шумерскіх «царскіх» пячатак III—II тысячагоддзя да Х.н. (а дзяржава Шумер узнікла ў той жа Месапатаміі, дзе развівалася згаданая вышэй Хасунская культура), — выява нейкага бога, з плугам, а за ім відна гара, на якой побач з раслінай стаіць казёл. Паводле меркавання вучоных — гэта сімвалы плённасці і плоднасці.

Паводле грэцкага міфа каза карміла сваім малаком галоўнага бога грэцкага паганскага пантэона — Зеўса, які, калі вырас і стаў магутным, зрабіў яе рог «рогам, з якога ўсяго многа». У старажытнай Грэцыі таксама, пачынаючы з II тысячагоддзя да Х.н., сярод простага люду быў распаўсюджаны культ Дыяніса — бога, які апекаваўся расліннасцю. Яго ўяўлялі пераважна ў выглядзе казла. З-пад нагі (ці капыта) Дыяніса мог «пырскнуць» струмень віна ці малака.

Падобную моц мае і каза, якую водзяць нашы шчадроўнікі:

*Дзе каза ходзіць, там жыта родзіць,*
*Дзе каза хвастом, там жыта кустом,*
*Дзе каза нагою, там жыта капою...*

Вядома, сама каза такія чарадзействы зрабіць не магла. Яна, калі можна так сказаць, была нейчым увасабленнем, вестуном, верагодна, сама старэйшага і сама магутнага паганскага бога нашых прашчураў — бога Рода. Толькі ён, апякун земляробства і расліннасці, мог забяспечыць сваім чэснікам багаты плён — «жыта капою».

Як слушна заўважае беларускі даследнік славянскага фальклору І.Крук, станоўчыя рысы свойскіх жывёл — герояў казачнага эпасу, — гэта сведчанне месца і функцыянальнай значнасці іх у міфалогіі індаеўрапейскіх народаў. Варта дадаць, што І.Крук адзначае і адметнасць: «У міфалагічных уяўленнях славянаў казёл з'яўляецца персаніфікаваным уцелаішчаннем пожадзі і плоднасці». Мы ж заўважым, што ні ў беларускім калядным абрадзе, ні ў нашых казках каза не мае рысаў юрнасці. Пацвярджае такое меркаванне «вобраз» казла з простай паводле сюжэту казкі «Козы», дзе казёл-барада з усёй чарады застаецца галодным, за што дзед толькі б'е казла-верхавода, хаця вычвор ужыў слова лупіць: «лупіў-лупіў яго вяроўкаю».

У сувязі з гэтай роляй «галоўнага героя» казкі «Козы» цікава будзе прыгадаць яшчэ адну шумерскую аналогію. Англійскі археолаг Леанард Вуллі ў сваёй кнізе «Ур халдзеяў» распавядае, як ён знайшоў у адкапаным шумерскім горадзе Ур два стодзівы (скульптурныя фігуркі) казлоў. Знаходка нагадала яму біблейскую прыпавесць пра «казла-вадзілу», што заблытаўся ў лясным гушчары.

Відаць, і ў Бібліі «казёл-вадзіла» («казёл-верхавод») з'явіўся невыпадкова. Археолагі выявілі ў Палестыне цікавыя знаходкі. У пахаваннях так званай Гхасульскай культуры (5—4 тысячагоддзі да Х.г.) адкапалі гліняныя пасудзіны, якія былі прызначаны для складвання рэштак (костак) памерлага чалавека. На адным з такіх «косткасховішч» вылеплены казіныя рогі, а шмат якія іншыя імітуюць гэтую жывёліну. Паводле аднаго з даследнікаў гэтай культуры такая сімвалічная форма — гэта выява мужчынскага антрапаморфнага боства ў выглядзе казла. Мяркуюць, што такім чынам уяўлялі сямейнага ці родавага бога-апекуна.

Пра тое, якую жывёліну мелі за продка нашы прашчуры, мы пагаворым іншым разам. Цяпер вымушаны паўтарыць, што з пераходам да земляробства змяніліся ўяўленні пра родавую сувязь людзей з пэўным відам жывёл. Паступова продкам пачынаюць бачыць чалавека, які ў нашых прашчураў атрымаў такое звычайнае і добрае імя — Дзед. І ўжо Дзед (бог-продак нашых прашчураў-земляробаў) мусіў жорстка караць за няўвагу да казы — вестуна галоўнага бога Рода.

*(Працяг будзе.)*

У СУСЕДЗЯЎ

## ТРЭЦЯЯ ТЭРМІНАЛАГІЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

20–23 верасня ў Львове мае адбыцца Міжнародная навуковая канферэнцыя «Проблеми української науково-технічної термінології». Яе арганізатары – Міністэрства асветы, Нацыянальная акадэмія навук і Акадэмія інжынерных навук, Тэхнічны камітэт стандартызацыі навукова-тэхнічнай тэрміналогіі Дзяржстандарту і Мінасветы Украіны, а таксама Украінскі тэрміналагічны цэнтр Амерыкі (ЗША і Канада). Канферэнцыя будзе працаваць ва універсітэце «Львівська політехніка».

Калі ў нас на Беларусі першая канферэнцыя па навуковай тэрміналогіі адбылася ў траўні сёлета, то гэтая канферэнцыя ў нашых суседзяў – трэцяя. Іх досвед выявіўся і ў дыферэнцыяцыі накірункаў працы па секцыях, якіх запланавана шэсць: «Історія, стан і перспективи розвитку україномовного науково-технічного стилю», «Теоретичні засади формування української науково-технічної термінології», «Принципи й методи науково-технічної лексикографії та науково-технічного стилю», «Проблеми українського спортивно-військового стилю», «Проблеми формування та стандартизації української науково-технічної термінології», «Комп'ютерний супровід словників, банки терміносистем і видавничи комплекси науково-технічної літератури».

305 навукоўцаў з Украіны, Беларусі, Расіі, Польшчы, Венгрыі, ЗША і Канады прадставілі 209 тэзісаў сваіх спавешчанняў. Сярод іх даволі цікавыя, прысвечаныя гісторыі ўкраінскай тэрміналогіі (І.Васілішын «Суспільно-політична термінологія у виданнях УПА»), адбору асобных тэрмінаў (Ю.Ішчук, Я.Кабылянскі, Б.Ермалюк «Про термін «олива»; В.Сабалеўская «Термін «фітонциди» та його синоніми в української мові»; Я.Казыр «Термінологічна проблема: «управляти» чи «керувати»), транслітэрацыі (М.Вакуленка «Українська латинка: правильне відтворення наших власних назв»). Ёсць і такія, якім на нашай травеньскай тэрміналагічнай канферэнцыі не было аналагаў: Т.Ганчарова «Роль уявлень у створенні термінів»; Л.Пуставойт «Емотивність науково-технічної термінології»; Н.Зялінская «Естетичні властивості наукового мовлення (на матеріалах української наукової прози)».

Адметнай рысай канферэнцыі з'яўляецца тое, што пытанням кампутарнага ўкаранення ўкраінскай мовы будзе прысвечана асобная секцыя, ды і дэвізам усёй канферэнцыі абрана крылатае выслоўе «Житимуть нації, мовою яких говоритимуть комп'ютери». Гэта добры прыклад нашым навукоўцам, якія дагэтуль не асэнсавалі ролю роднай мовы з экрана кампутара ў выхаванні нацыянальна свядомага спецыяліста.

Калі чытачы зацікавяцца канферэнцыяй у нашых суседзяў, можна звяртацца на адрас: Украіна, 290646, Львів-13, вул. Степана Бандери, 12. Телетайп 234278 «ПЛАН», телефон/факс 722520.

**Уладзімір СЛАБІН.**

## СУПЯРЭЧНАСЦІ ЗАСТАЮЦЦА

***Насуперак ранейшым сцвярджэнням вучоных, навуковай літаратуры і савецкіх падручнікаў хочацца пагадзіцца з вывадамі сучасных беларускіх навукоўцаў, што адзінай усходнеславянскай, або, як яе называюць, старажытнарускай мовы, як і такой народнасці ў Кіеўскай Русі, не было. Пасля перыяду паасобнага жыцця славянскіх плямёнаў ствараюцца іх саюзы, насельніцтва аб'ядноўваецца вакол старажытных гарадоў і фарміруюцца тэрытарыяльныя, мясцовыя гаворкі. Безумоўна, яны маюць шмат блізкага і агульнага ў выніку роднасці па свайму славянскаму паходжанню.***

Прафесар В.Мартынаў у артыкуле «Шляхі фарміравання беларускай мовы» (кніга «Жывая спадчына», 1992 г.) такімі агульнымі асаблівасцямі гаворак усходніх славян (як раней і Я.Карскі) лічыць наступныя: моцны і рухомы націск; поўнагалоссе (ора, оло); замена насавых галосных гукамі «у, я» — рука, пяць; пераход пачатковых «йэ» у «а» — ален; ненаціскных «ъ, ь» у «о, е» — сон, дзень... Ён піша, што з увядзеннем хрысціянства ў Кіеўскую Русь пранікла пісьменнасць і ўзнікла адзіная літаратурная мова, якую прынята называць старажытнарускай. Але яна прамовай усходніх славян быць не можа, бо развілася на аснове стараславянскай (старабалгарскай) літаратурнай мовы, хоць не пазбаўлена ўплыву народных гаворак.

Вельмі пераканаўча гэты факт тлумачыў акадэмік Я.Карскі: «З прыняццем хрысціянскай рэлігіі з'явілася неабходнасць у пісьменнасці. У выніку нераспрацаванасці мясцовай гаворкі мовай кніжнай і богаслужэбнай становіцца мова першых царкоўных кніг, гэта значыць царкоўнаславянская, толькі з некаторымі адценнямі рускага «извода» («Беларусы», Вільна, 1904 г., т. 1, с. 111). «БСЭ» (1976 г., т. 23) сцвярджае, што стараславянская (царкоўнаславянская) мова на Русі была не толькі царкоўнай, але і мовай адміністрацыі, культуры, выконвала ўсе функцыі пісьмовай мовы. Сама яна зазнавала ўплыў мясцовых моў, таму ўзніклі розныя яе варыянты; асабліва вялікае пашырэнне і аўтарытэт меў расійскі варыянт. Як бачым, дадзена рэалістычная ацэнка ролі гэтай мовы.

У «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» (1984 г., т. 1) на с. 364 напісана, што мова ўсходніх славян захоўвала адноснае адзінства на працягу VII—XIII стагоддзяў. У Кіеўскай Русі ўжывалася пісьмовае двухмоўе: напісанне евангелляў, псалтыроў вялося на стараславянскай мове, а вусная яе разнавіднасць ужывалася ў набажэнстве. Яна напаўнялася мясцовымі рысамі, што прывяло да фарміравання царкоўнаславянскай мовы. Паралельна існавала старажытнаруская літаратурная мова на народнай аснове для справаводства ў дзяржаве. Народ карыстаўся дыялектамі старажытнарускай мовы. Вось некаторыя з гэтых высноў выклікаюць сумненне.

У новай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (1993 г., т. 1) аўтары на с. 465 сцвярджаюць, што ў часы Кіеўскай Русі «у этнічным аспекце складваюцца агульныя для ўсіх усходніх славян так званыя старажытнарускія рысы культуры, мовы, самасвядомасці». На с. 377 паведамляецца, што ў VIII—IX стагоддзях пачала складвацца і старажытнаруская мова, яе адноснае адзінства захавалася і ў эпоху Кіеўскай Русі. Гэтаму перыяду характэрна літаратурна-пісьмовае двухмоўе: царкоўнаславянская мова ўключала богаслужэбную літаратуру, славянаруская мова ўжывалася для стварэння «арыгінальных твораў», у якіх пераважала царкоўнаславянская стыхія, але з наяўнасцю ўсходнеславянскага субстрата». Далей напісана, што царкоўнаславянскай мове супрацьставіцца старажытнаруская на народнай аснове, якая выкарыстоўвалася ў дзяржаўным справаводстве, дзелавой пісьменнасці, на ёй напісаны свецкія творы, берасцяныя граматы. Але па думцы некаторых навукоўцаў яе нельга лічыць самастойнай, асобнай мовай, бо яна толькі разнавіднасць царкоўнаславянскай.

Як відаць, у гэтай новай навуковай кнізе выкладзена ранейшая тэорыя старажытнай мовы на Русі. Вось такія супярэчнасці ствараюць цяжкасць настаўнікам і студэнтам у практычнай рабоце.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ,**
**ветэран педагагічнай працы.**
г. Ашмяны.

*КУЛЬТУРА МОВЫ*

## ДАЙЦЕ РАДЫ!..

*Уладзімір СОДАЛЬ*

На адной з сесій Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, на якой яшчэ старшынстваваў Станіслаў Шушкевіч, паўстала пытанне, як называць надалей найвышэйшы орган улады на Беларусі, як запісаць у Канстытуцыю. Былі розныя меркаванні: хтось прапанаваў называцца соймам, іншыя – радаю. Аднак колішні спікер Беларускага Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч сказаў прыкладна так: «Яно, вядома, слова «рада» беларускае, адпавядае ладу беларускай мовы: нарада, рада, ра́дзіць, дарадца, дарадчык, даць рады, раду радзіць, рада ў раду... Але, я думаю, мяняць не будзем... Неяк ужо ўсе звыкліся з назваю «Вярхоўны Савет», то хай так і будзе надалей».

Гэтакі філалагічны дослед колішняга нашага спікера разануў сэрца: старшыня «Вярхоўнага Савета» разумее непрымальнасць для нашай мовы зрусіфікаванага назову вярхоўнай улады рэспублікі, але тым не менш дзеля палітычнай каньюнктуры, жадання спадабацца, а можа больш дакладна сказаць – дагадзіць партыйнай большасці, увайсці да іх у давер, мусіў пакрывіць душою.

Мінула ўжо шмат часу з тае пары, як адбылася тая падзея, але згаданы моўны рэверанс колішняга старшыні не забываецца. Тым часам наша суседка Расія даўно ўжо адкінула стары назоў вярхоўнай улады. У яе – Дума, Дзяржаўная Дума.

На вялікае шчасце, на Беларусі не ўсе пагадзіліся з колішнім старшынёй і парламенцкай большасцю. Усё больш і больш з'яўляецца ўстаноў і суполак, якія свае кіраўнічыя органы называюць радаю:

...Вучоная Рада Менскага універсітэта культуры... Рада пісьменнікаў... Рэдакцыйная рада часопіса «Роднае слова»... Рада гісторыка-мемарыяльнага фонду «Трасцянец»... Рада дырэктараў школ... Цэнтральная Рада Беларускага дэмакратычнага аб'яднання... Цэнтральная Рада Беларускай сялянскай партыі... Нацыянальная рада маладзёжных арганізацый... Цэнтральнай Радай называе свой кіраўнічы орган і Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада. Рада кіруе Таварыствам беларускай мовы...

Ёсць Каардынацыйная Рада ў Менскім гарсавеце (звярніце ўвагу на апошнія словы ў згаданай назве ў кантэксце са словам «рада»...)

Беларускасць гэтых назваў захоўвае і наш расійскамоўны друк. Вось, прыкладам, як «Семь дней» манціруе беларускі назоў у свой тэкст. «Угроза выселения из арендуемого помещения в престижной, центральной части Гродно нависла над местным культурно-просветительным фондом «Бацькаўшчына» гарадской рады БНФ» (25.05.1994. «Пиши, да меру знай»). Гэтак і павінна быць. Гэтак і робіцца ў цывілізаваным свеце.

Але, як бачым, нашаму найвышэйшаму органу ўлады на Беларусі ні правілы, ні законы не пісаны. Моўная практыка народа сама сабе, а ўлада – сама сабе. Пра гэта якраз і гаварыў на XII сесіі 6 ліпеня 1993 года народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Ніл Гілевіч. Яго прамова так і пачыналася: «Шаноўныя калегі і дэпутаты! Наш парламент называецца Вярхоўнай Радай, па-руску – Вярхоўны Савет. Рада, каб ра́дзіцца, разам думаць, абмяркоўваць і прымаць рашэнне...»

Відаць, менавіта так рабілі нашы продкі на пасяджэннях «паноў рады» ўжо з першых гадоў існавання нашай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага. Таму і вынікі мелі вельмі добрыя.

«Вярхоўны Савет» не прызнаў за найвышэйшаю ўладаю Рэспублікі Беларусь спрадвечна беларускі назоў – рада. Але ж мы маем слова «ўрад». Яно ж таго самага кораня *рад* і з радай моцна павязана семантыкай і логікай. Але дзе ж логіка: «урад» можна, а «рада» не. А яна павінна быць, каб раіцца, ра́дзіць, даваць парады, быць дарадцай.

Адпаведную назву мусіць мець і ўрадавы орган – Савет Міністраў. Калі ўрад, то натуральна і лагічна не Савет, а Рада Міністраў...

Гэтага і павінна дамагацца беларускае грамадства.

То дайце ж рады!



### СТВОРЫМ ГІМН БЕЛАРУСІ РАЗАМ

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

1. Мы, беларусы, — вольныя людзі!
2. Вольным заўсёды будзе наш шлях.
3. Сімвал свабоды — Сцяг Беларусі,
4. Бела-чырвона-белы наш Сцяг.
5. Хай жа ніколі ён не загіне!
6. Бог захавае Белую Русь.
7. Наша адданасць — Вольнай Радзіме.
8. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!
9. Праца народа моц і свабоду —
10. Годнасць гартуе з году ў год...
11. Веліч Радзімы — мужнасць народа,
12. Люд Беларусі — слаўны народ.
13. Хай жа ніколі ён не загіне!
14. Бог захавае Белую Русь.
15. Наша адданасць — мілай Радзіме.
16. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!
17. Край наш багаты, шчодры, дзівосны,
18. Рэкі павольныя, светлыя тут.
19. Мірна гамоняць бярозы ды сосны...
20. Цешце, нашчадкі, родны наш кут!
21. Хай жа ніколі ён не загіне!
22. Бог захавае Белую Русь.
23. Наша адданасць — мілай Радзіме.
24. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!

Ад рэдакцыі: Па просьбе чытачоў паўтараем тэкст верша У. Жыгалкі, які ён прапанаваў дапрацаваць грамадою, каб такім чынам стварыць Гімн Беларусі. Радкі вырашана пранумараваць дзеля зручнасці спасылкі на іх у далейшым.

Нагадваем: кожны, хто бярэ ўдзел у дапрацоўцы тэксту, можа ў межах агульнай задумы верша дасылаць уласныя варыянты радкоў ці асобных слоў, а таксама падтрымліваць альбо крытыкаваць заўвагі і варыянты іншых удзельнікаў сумеснай працы над тэкстам. Публікуючы іх, мы ўстрымліваемся ад рэдакцыйных каментараў. Чакаем вашых лістоў, шаноўныя чытачы!

*Шаноўная рэдакцыя, калі прачытаў два праекты Гімна ў «Нашым слове» № 33, вырашыў далучыцца да прапановы У.Жыгалкі стварыць Гімн Беларусі грамадою. Гэтыя варыянты надта ўжо апісальныя. Ёсць у варыянце Я.Насуты такія радкі: «Славім у песнях нашу краіну, белую, быццам святочны абрус» (5, 6, 11). На маю думку, параўнанне нашай краіны з белым абрусам вельмі недарэчнае, у варыянце У.Жыгалкі: «Вольным заўсёды будзе наш шлях». Тут няма канкрэтнасці. Які шлях? Да чаго? Да рублёвай зоны? Ды і аб «волі» яшчэ рана гаварыць, калі на нашай зямлі знаходзяцца замежныя войскі. Гімн павінен быць патрыятычным, уздымаць дух, рашучасць, годнасць і гонар за сябе, свой край і народ, абуджаць гатоўнасць ахвяраваць дзеля Радзімы жыццём. Прапаную свой варыянт гімна.*

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

1(1) Мы, беларусы — вольныя людзі,
Цяжкім, крывавым даволі быў шлях.
Сімвал свабоды — сцяг Беларусі
Зноў бела-чырвона-белы наш сцяг.
За цябе, дарагая краіна,
Годна падымем штандары ўгару.
Мы абаронім з Богам Радзіму,
Хай жа заўсёды жыве Беларусь.
Выйшаў народ наш з мужнай кагорты.
У Грунвальдскай бітве свой гонар знайшоў.
Падаў за волю трэці, чацвёрты,
Як наш край знішчыць чужынец ішоў.
За цябе, дарагая краіна,
Годна падымем штандары ўгару.
Мы абаронім з Богам Радзіму,
Хай жа заўсёды жыве Беларусь.
Нам, беларусам, вольным сягоння
19(II) У бітвах за волю свяціла зара.
Нас акрыляе ў працы «Пагоня»
І бараніць заклікае свой край.
За цябе, дарагая краіна,
Годна падымем штандары ўгару.
Мы абаронім з Богам Радзіму,
Хай жа заўсёды жыве Беларусь.

*Радкі, пазначаныя 1(1) і 19(11), узятыя з тэксту У.Жыгалкі і Я.Насуты. «Бог захавае Белую Русь» ці «Бог абароніць нашу радзіму» — ідэя правільная, але не дакладная. У народзе гавораць: «На Бога спадзявайся, а сам не плашай». Бог можа падтрымаць наш дух, а бараніць Радзіму павінны мы самі.*

*Таму я прапаную: «Мы абаронім з Богам Радзіму». Радкі Я.Насуты «Кліча да згоды выбраны шлях» я замяніў на: «І бараніць заклікае свой край», што адпавядае сімвалу «Пагоні». Словы «Вольнымі будзем жыць у вяках» я замяніў: «У бітвах за волю свяціла зара». Тут «зара» — надзея. Хоць у бітвах паўстанцы цярпелі паражэнні, але лепшыя сыны народа ніколі не адракаліся ад ідэі свабоды і волі.*

***Мікола ВАЛОШЧЫК.***
*г. Белаазёрск.*

# ГІМН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Мы, беларусы, вольныя людзі,
Дружна адзінай сям'ёю жывём.
Роднай зямлі сваёй, маці-Радзіме
Вернасці клятву навекі даём!
Хай на зямлі зеляняюць палеткі,
Мірнымі будуць і Захад, і Усход,
Працы свабоднай слава навекі,
Слава табе, беларускі народ.
Лёсам, краінай сваёй ганарымся,
Шлях адраджэння — адзіны наш шлях,
Горда ж узвіся ў светлыя высі,
Сцяг незалежнасці, мужнасці сцяг!
Хай на зямлі зеляняюць палеткі,
Мірнымі будуць і Захад, і Усход,
Працы сумленнай слава навекі,
Слава табе, смелы, мужны народ!
Працаю дружнай, мір дзе і згода,
Светлага заўтра сустрэнем зару.
Хай сярод роўных краін і народаў
Вечна свабоднай жыве Беларусь!
Хай на зямлі зеляняюць палеткі,
Мірнымі будуць і Захад, і Усход,
Працы стваральнай слава навекі,
Слава табе, наш свабодны народ!

**Восіп РАГОНЬКА.**

# СУМНАЯ ЎРАЧЫСТАСЦЬ У ЗЭЛЬВЕ

На Спаса ў Зэльву — родны кут Ларысы Геніюш — прыязджалі прадстаўнікі Усебеларускага жаночага фонду Ефрасінні Полацкай, Саюза пісьменнікаў, Беларускага народнага фронту, Беларускага згуртавання вайскоўцаў ды іншых грамадскіх арганізацый. Госці і зэльвенцы прысутнічалі на службе ў гонар паэтэсы ў мясцовай царкве, пабывалі на могілках, дзе на асвечаную ў гэты дзень магілу Ларысы Антонаўны паклалі вянкі і кветкі (на здымку).

Я ж паехаў у Зэльву ў нядзелю, 21 жніўня. Чыстымі, не надта людными зэльвенскімі вуліцамі я ішоў да дома, дзе жыла Ларыса Геніюш. І хоць я ведаў, што мясцовыя ўлады нічога не зрабілі дзеля ўшанавання памяці паэтэсы, усё ж спадзяваўся: а раптам у апошнія дні штось змяніцца. Але дарма мае вочы шукалі мемарыяльную дошку.

Высокі, пад стрэшкай, ганак, які пры жыцці Ларысы Антонаўны быў, беларускім звычаем, адкрыты, цяпер перароблены ў веранду. Я глядзеў на гэтую зашклёную, завешаную фіранкамі негасцінную веранду, ды бачыў... ліпеньскі дзень 1974 года, калі Ларыса Антонаўна, шчаслівая, сустракала гасцей. Прыехалі сябры з Гародні, з Баранавіч, Ніна Мацяш з Белаазёрска, прыйшлі зэльвенскія сваякі, суседзі. Было мноства кветак: на двары, дзе цвілі гладыёлусы і пышніліся яе любімыя вяргіні, і ў хаце — пераважна белага і чырвонага колераў. А як яна ўзрадавалася падарунку безыменных «менчукоў» — напісанай прыгожым арыгінальным каліграфічным пісьмом «Грамаце» і кошыку цукерак!.. Удзячная, Ларыса Антонаўна паслала менчукам ёю самою прыгатаваны старабеларускі напой — крупнік... Тады ніхто і не думаў, што праз дваццаць гадоў вершнік на срэбным кані перавандруе з хаты паэтэсы на шыльду музычнай дзіцячай школы...

Сумны, я пайшоў у царкву. Там прыгожа спяваў хор. Але службу вёў не айцец Васіль, які калісь праводзіў Ларысу Антонаўну да яе апошняга прыстанку ды асвяціў яе дамавіну і магілу... З напатканым прыхільнікам таленту Ларысы Антонаўны мы накіраваліся да могілак, пайшлі тым шляхам, якім неслі труну з целам паэтэсы. Здалёк мы ўбачылі бел-чырвона-белы сцяг і грамаду людзей: сяброў БНФ, «Мартыролагу Беларусі», Людмілу Пеціну, старшыню Беларускага жаночага хрысціянска-дэмакратычнага руху, Беларускай нацыянал-дэмакратычнай партыі, менскіх журналістаў... Пісьменнік і літаратуразнаўца Пятро Васючэнка гаварыў пра творчасць паэтэсы, Людміла Пеціна — пра будучы помнік Ларысе Геніюш, а Зянон Пазьняк распавёў пра свае знаёмства з Ларысай Антонаўнай, пра яе духоўную сілу і духоўны прыклад, які паэтэса падавала ў часы зняволення і пазней, на Радзіме. Колькі слоў сказала і Галіна Дзягілева, кіраўнік Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра «Зьніч». Да дня нараджэння Ларысы Антонаўны тэатр ужо трэці год запар прывозіць у Зэльву свае монаспектаклі. У гэты ж дзень, пасля таго як госці пабывалі каля хаты паэтэсы ды памаліліся ў царкве, у Доме культуры спадарыня Галіна ажывіла ў монаспектаклі «Белы сон» старонкі «Споведзі» Ларысы Геніюш.

**Здзіслаў СІЦЬКО.**

### ЧЫТАЛІ?

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ З НАЦЫЯНАЛЬНАГА ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ

Выдавецтва «Беларусь» накладам 40 тысяч паасобнікаў выпусціла ў свет «Нарысы гісторыі Беларусі» (першая частка). У кнізе, як сцвярджае анатацыя, упершыню падаецца гісторыя Беларусі ад старажытных часоў да падзей Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года з нацыянальнага пункту гледжання, які грунтуецца на прызнанні факта шматвяковага існавання беларускага этнасу як суб'екта гісторыі. Аўтары шмат у чым пераасэнсоўваюць гістарычны шлях беларускага народа — праблемы этнагенезу, станаўлення і развіцця дзяржаўнасці, нацыянальнай культуры, узаемадачыненняў з суседнімі краінамі і народамі, вызваленчай барацьбы, аднаўляюць гістарычную праўду пра многія падзеі і постаці беларускай мінуўшчыны. І пакуль кніга яшчэ ёсць у крамах, яе варта набыць усім, хто цікавіцца гісторыяй сваёй краіны, бо цяпер можа так здарыцца, што ў ёй «наверсе» могуць знайсці «нацыяналістычны» ўхіл і кнігу забароняць.

**Н.С.**

## СПАДЧЫНА



**На здымку:** Віцебск. Пакроўскі кафедральны сабор. **Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ.**




### Д.ДЖАРВІС: Тэрапеўтычныя ўласцівасці сотавага мёду

Мядовыя соты — выдатны сродак лячэння некаторых захворванняў дыхальнай сістэмы. Гаючымі сродкамі перш-наперш валодае воск, з якога поўнасцю адпампавалі мёд. Жаванне мядовых сотаў аказвае дабратворны ўплыў на слізістую органаў дыхання. Лепш жаваць сотавы мёд. Аднак, калі яго немагчыма дастаць, добрыя вынікі можна атрымаць пры ўжыванні за кожнай ядой сталовай лыжкі мёду на дэсерт.

У разуменні доктара Джарвіса, народная медыцына скарыстоўвае сотавы мёд як нейтральны сродак, які, як сведчаць вынікі яго ўжывання, аказвае антыалергічнае дзеянне. Назіранні народнай медыцыны паказалі, што захворванні органаў дыхання звязаны з парушэннямі абменных працэсаў арганізма, недахопам некаторых пажыўных рэчываў. Пры гэтым гаючыя ўласцівасці мёду абумоўліваюцца наяўнасцю ў ім рэчываў, якія лечаць слізістую дыхальнага тракту. Крыніцай вугляводаў у мёдзе з'яўляецца дэкстроза і левулёза. Акрамя таго, у ім знойдзена шмат іншых рэдкіх цукраў, мінеральныя элементы, кіслоты, амінакіслоты і многія іншыя рэчывы. У яго склад уваходзяць таксама вітаміны групы В. Пылок з мядовых сотаў утрымлівае бялок, тлушч, вугляводы, крухмал і цэлюлозу. У склад воску ўваходзяць кампаненты, якія ўтрымліваюцца ў нектары, што збіраюць пчолы.

Вынікі даследаванняў паказалі высокую эфектыўнасць метадаў лячэння сотавым мёдам і сотамі. У 90 працэнтах пры камбінаваным лячэнні з дапамогай гэтых двух сродкаў былі атрыманы добрыя вынікі на працягу некалькіх дзён. Народная медыцына сцвярджае, што людзі, якія ўжывалі сотавы мёд да шаснаццацігадовага ўзросту, рэдка прастуджваюцца, у іх рэдка бывае сянная ліхаманка і іншыя захворванні поласці носа. На думку народнай медыцыны, жаванне сотаў выклікае імунітэт да захворванняў органаў дыхання, які захоўваецца на працягу чатырох гадоў. Пачынаць ужываць сотавы мёд можна і ў сталым узросце дзеля таго, каб нармалізаваць функцыі слізістай абалонкі носа, рота, горла.

У перыяд мёдазбору, калі на пасеках пампуюць мёд, вам трэба на цэлы год запасціся сумессю воску з мёдам. Для гэтага лепш за ўсё падыходзіць тое, што пчаляры называюць забрусам — васковымі вечкамі мёдавых сотаў, якія зрэзваюць перад адпампоўваннем мёду. Яны вельмі цвёрдыя — дабаўце да іх крыху мёду, каб лягчэй было жаваць.

У наступных нумарах газеты спынімся на некаторых выпадках, з якімі сутыкнуўся доктар Джарвіс пры працяглым назіранні за вынікамі такога лячэння.

## І СМЕХ І ГРЭХ

*БУЛАТАВІЧ ВІБ У.*

### ЯК У ТРАМВАІ

Кажуць, найлепш думаеш, ідучы пешшу.

Я заўжды пешшу хадзіў, пакуль усе былі арганізаваныя, застаюся на сваіх дваіх і цяпер, калі рэарганізуюцца. Толькі апошнім часам уважліва слухаю, што кажуць, і чытаю, што пішуць наконт рэарганізацыі.

У памяць запала з усяго найбольш слова «платформа». Дзякуй яму, слову магутнаму! Не дапяў бы інакш: усё ж так, як у трамваі.

На пярэдняй платформе пярэднія, альбо перадавыя. А на задняй заднія, альбо адсталыя.

Паміж імі сярэдзіна.

Тым, хто пасярэдзіне, час ад часу гукаюць:

– Сярэдзіна, крыху наперад!

Гэта значыць, што трэба наблізіцца да пярэдняй платформы. Уласна, сярэдзіна толькі на гэта зважае.

Бо цераз яе галовы платформы зацята перакідваюцца:

– Дагматычны бюракратызм! – даймаюць адны.

– Анархалібералізм! – вяртаюць другія.

– Гнілы дэмакратызм!

– Відавочны унітарызм!

Сярэдзіна тым часам толькі перашэптваецца, каб апаненты маглі добра чуць узаемныя абвінавачванні.

Так працягваецца да прыпынку, дзе адбываецца змена пасажыраў.

– Сепаратызм! – данясецца яшчэ раптам з пярэдняй платформы ад таго, хто не заўважае пераменаў.

Але потым зноў гучыць:

– Сярэдзіна, крыху наперад!

І сярэднім становіцца лягчэй. Уласна, яны толькі на гэта зважаюць і толькі гэта могуць.

Трамвай моцна хістаецца.

*Пераклаў з сербскахарвацкай мовы Іван ЧАРОТА.*

## ШКОЛА САМААБАРОНЫ

# ШТО ТАКОЕ «РУССКИЙ СТИЛЬ» РУКАПАШНАГА БОЮ?

*(2-я частка)*

Але ж давайце працягнем размову і паспрабуем разабрацца з другімі школамі «русского стиля». Гэтыя ў паганства не гуляюць, наадварот, дзяўбуць пра хрысціянскія духоўныя каштоўнасці, а не пра «тайныя» школы, нашчадкамі якіх абвяшчаюць сябе іншыя прыхільнікі стылю. Затое, як і «паганскія кулачныя байцы», робяць заявы аб сваёй велізарнай, звышчалавечай баявой эфектыўнасці. Аднак падобныя заявы не знаходзяць сабе пацвярджэння падчас баёў з адэптамі іншых відаў адзінаборстваў. Папросту кажучы, яны ўхіляюцца ад такіх сустрэч, сцвярджаючы, што «наша система настолько опасна, что ее невозможно использовать в соревновательных поединках». Але ці гэта з'яўляецца праўдай? Не самай справе ні адзін з «русских рукопашников», якіх мне давялося бачыць, у сапраўднай бойцы з добрым баксёрам не здолеў пратрымацца і пару хвілін. Ды і за кошт чаго можа гарантавацца перамога, калі ў стылі Кадашнікава кідкі і балявыя прыёмы істотна пераважаюць над ударамі? Між тым, менавіта ўдары дазваляюць спадзявацца на перамогу ў хуткай і бязлітаснай бойцы на знішчэнне. Ударная тэхніка трактуецца тут практычна так, як у рытуальна-фальклорных школах: «Славянину, чтобы сбить противника с ног, достаточно и нефиксированного удара... Боец использует проносной, инерционный удар, поражая одновременно не одного, а нескольких нападающих... (на мой погляд, такое можна ўбачыць толькі ў індыйскіх фільмах — М.К.) И лучше, если удар этот наносится по криволинейной траектории — рука без задержки возвращается назад, в то время как другая уже приближается к цели...»

З гэтай нагоды хачу сказаць наступнае. Па-першае: як можна паслаць хаця б у накдаўн без акцэнтаванага ўдару (напрыклад, у падбародак) чалавека, які цяжэй за мяне кілаграмаў на 10—20? Калі толькі ён не будзе п'яны, хворы ці не стаіць «на зважай», задраўшы галаву і чакаючы майго кулака. Па-другое: чым выгнутая траекторыя лепшая за простую? Просты ўдар карацейшы, а значыць больш хуткі і моцны. Па-трэцяе: калі адна рука ўжо вяртаецца назад, а другая ў гэты час нясецца да цэлі, галава байца застаецца адкрытай, і ўмелая контратака праціўніка на апераджэнне праз руку можа скончыцца сумна. Так званыя «трайныя ўдары» А.Рацюнскіх тлумачыць наступным чынам: «Наносим прямой удар кулаком правой руки в солнечное сплетение противника, затем, сгибая эту же руку, наносим удар локтем в живот. И последний удар, с оттяжкой по шее или в солнечное сплетение, наносим тыльной стороной кулака, для чего резко разгибаем локоть». На мой погляд, гэта сцвярджэнне памылковае ў прынцыпе. Пасля простага ўдару правай рукой у корпус (выкананне якога патрабуе пераносу вагі цела на нагу, што стаіць наперадзе) нерацыянальна рабіць удар яе ж локцем у жывот. Бо без замаху немагчыма ў поўнай меры выкарыстоўваць кінетычную энергію цела, і ўдар будзе маламоцны. У дадзенай сітуацыі значна больш хуткім і моцным быў бы бакавы левай рукой у галаву ці, левай жа, знізу ўверх у галаву.

Пойдзем далей. «В русском бою мышечная сила не расходуется чрезмерно, здесь важна экономия энергии. Главное в этой системе — научиться работать расслабленно». Я лічу, што ў час бою нельга быць расслабленым. І, зразумела, тым больш нельга быць сцятым, сударгава напружаным. Цягліцы павінны знаходзіцца «ў тонусе», у лёгкім бесперапынным руху. У гэтым выпадку яны імгненна рэагуюць на загады цэнтральнай нервовай сістэмы — у адрозненне ад расслабленых. Пагуляйце з катом, і вы ўбачыце, як ён перад кідком прыпадае да падлогі і рухае тулавам. Вельмі лёгка, нават вытанчана, але ж ні ў якім выпадку не расслаблена. Ды і навошта расслабляцца ў баі? Каб «сохранить энергию»? Што ж, паглядзіце на прафесійных баксёраў пасля 15 раундаў абмену жорсткімі ўдарамі. Нікога з іх не выносяць з рынгу знямоглым. І ніхто з гэтых турнірных байцоў не стаіць у поўным «расслабоне» ў «ніжняй рамцы», чакаючы, пакуль праціўнік кінецца на яго. Не, яны ўвесь час рухаюцца па рынгу — лёгка і разнявола. «В общих чертах отличие русского стиля рукопашного боя от прочих единоборств состоит в системе передвижений, воспринимаемых не как набор приемов и комбинаций, заученных бойцом как догма, а во взаимосвязи движений, выстроенных как звенья единой непрерывной цепи... Боец должен работать минимум в трех плоскостях, что требует не только отличной координации движений, но и чувства «дистанции». З гэтага выказвання добра відаць, што А.Рацюнскіх блытае рытуальна-фальклорныя і спартыўныя школы ушу ці каратэ з баявымі.

*(Працяг будзе.)*

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 37

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 5982 паасобнікі
Падпісана ў друк 9.09.1994 г. у 15 гадзін.